*Маёй радзіне – Ніне, Вітаўту,*
*Людміле, Вераніцы, Маланні, Олэксандру,*
*Андрэю, Яне, Юліі;*
*землякам-суайчыннікам –*
*і найперш сп-ні Вользе Грыцук (Дуброўскай) з Дзісны,*
*а таксама ўсім сутворцам на мацерыку Беларусь*

*п р ы с в я ч а ю*

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Бел)-5
П16

*Дызайн вокладкі зроблены*
*з выкарыстаннем фота аўтара*
*"На поплаве Волты" (1985 г.).*

*У афармленні шмуцтытулаў*
*скарыстаны дрэварыт*
*з Бібліі Францішка Скарыны*
*(Прага, 1519 г.)*

**Панізьнік, С. С.**
П16 Нас – многа! : Гадоў увершаваныя радкі / Сяргей Панізьнік. – Мінск : Тэхналогія, 2012. – 124 с. : іл.
ISBN 978-985-458-232-0.

Аўтар кнігі вось ужо больш за 50 гадоў сваёй даследніцкай і стваральнай працай шчыра служыць Бацькаўшчыне, землякам.

Гэты зборнік змяшчае вершы, прысвечаныя Радзіме, блізкім, сябрам і калегам. Творы прасякнуты любоўю да роднай зямлі, павагай да продкаў, перажываннем за лёс Айчыны. Творца гаворыць з чытачом пра тое, што хвалюе-непакоіць ў сённяшняй існасці і спадзяецца на яго суперажыванне.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Бел)-5**

**ISBN 978-985-458-232-0**

## Не толькі Гамэру...

З сеціва можна выклікаць на экран кампутара геаграфічныя вывы. І тады бачу я берагі Дзвіны, знаёмыя абрысы вёсак, лясных масіваў... Пазнаю свой мацярык. Але лягчэй перанесціся ў думках на "падкову" Дзвіны між Друяй, Дрысай, Дзісной, "прызямліцца" на маё радзіннае поле. 10 траўня 1942 года я з'явіўся на свет у вёсцы Бабышкі. У вёсцы? На даўняй карце бачыў абрысы такой вёскі. А на мяне з дзяцінства глядзелі сядзібы хутароў пры рэчцы Волце ў Мёрскім раёне. Сёння толькі адна Волта, абмялелая, асірацелая, і засталася. Сярод ворыва – зарослыя курганкі ад былых сельбішчаў. Вось і былое котлішча бацькоў...

Зляцелі з бэзавай пупышкі
гады юнацкае тугі...
Даездак чэрствы і глухі
у заараныя Бабышкі.

Але тое, што прамінула, ува мне не знікае. Маё радзіннае поле – у полі касмічнай інфармацыі. У ім заўсёды існуе тое, што прамінула. Адлюстраванне людства, галасоў маіх Бабышак можна адчуць, ажывіць, калі толькі захацець. Таму я лёгка пераношуся ў думках не на пустэчу, а ў тыя згусткі энергіі, у тую рухомую матэрыю, дзе пачыналася мая існасць.

У мамы быў свой каляндар. Узгадвала: гэта было пры першых саветах, так мы жылі пры паляках, а гэтая бяда спасцігла пры немцах... Вясна 1942-га года – гэта "пры немцах". Паводле яе слоў, я ажно двойчы ўратаваў партызанскую сям'ю ад вывазу ў Нямеччыну. Першы раз, калі мама "хадзіла" мной: якая карысць Райху ад цяжарнай? Другім разам знаёмы солтыс Шадурскі даводзіў акупантам, што народжаны малец цяжка хворы. Гэта было праўдай. Вынасіць мяне нялёгка было пад рулямі самаахоўцаў, паліцаяў, партызанаў. "Дзе хлеб?", "Ты схавала кажух!", "Што, гарэлку перастала гнаць?"

Сялянская сям'я павінна была аддаць здароўе, кроўны набытак і пад час калектывізацыі, і на каксагызных палях. Памятаю, як мама змушала мяне станавіцца побач і вырываць лён, абы толькі выканаць норму. Бацька быў конюхам у калгасе, і зранку я мяняў яго пры та-

буне. Ён ішоў дагледзець свае соткі, а я каля вогнішча браўся за лягчэйшую работу, разгортваў здабытую ў сельскай бібліятэцы кніжку. Не я коней пасвіў, а яны мяне. Падыдзе, спутаны, да вогнішча, паглядзіць, чым я займаюся. Праз хвілінку – усе яго браткі ў аўсе. Кніжкі на адзін дзень не хапала. А тут мой сябрук Федзя Кудзянаў паказаў аднаго разу свае крамзолі, назваў іх вершамі. Мяне здзівіла тое, што вершы бываюць не толькі ў кніжках, што іх можна пісаць самому. І першы мой верш быў напісаны на кані, калі я пасля дажджу збіраў свой парадзелы табун.

А ў нататніку пазначаў, калі расцвіла першая сунічка, калі прыляцелі бацяны. Прырода гадавала мае ўяўленні. Я цешыўся, як спяваюць валачобнікі, як гукі ад гармоніка плывуць па вечаровым рэчышчы Волты. Вясной 1959 года адважыўся паслаць свой верш у раёнку. Тым жа летам надрукавалі і маю байку. Калі паказаў ганарар на рубель дваццаць капеек бацьку, той пахітаў галавой і сказаў: "Сынку, ты з гэтых грошай сыт не будзеш..."

Маім хросным бацькам быў фельчар Леў Іванавіч Кураш, знакаміты на ўсю акругу лекар. Толькі слухаўкай ды сваёй чуйнай душой вызначаючы дыягназ, ён надзейна лекаваў людзей. Я намерыўся: таксама буду фельчарам, мой хросны – прыклад служэння людзям. У 1962 годзе я ўжо працаваў у Княжыцкай участковай больніцы. Акрамя рэцэптаў, запаўняў паперыны радкамі сваіх вершаў. Паказваў іх Аляксею Пысіну: пры газеце "Магілёўская праўда" ён вёў літаб'яднанне. На той час многія паэты пад загалоўкам свайго твора пазначалі: "З народнага". У сябе на радзіме, у вёсцы Латышы, ад Ядзі Сялюн я запісаў яе ўлюбёную песню, якая пачыналася словамі: "У суботу Янка ехаў ля ракі..." Дадаўшы нешта сваё, тэкст з падзагалоўкам "З народнага" паказаў Аляксею Пысіну. Той, адсунуўшы мой рукапіс убок, папрасіў пісаць "ад сябе". А праз некалькі месяцаў, убачыўшы мяне, засмяяўся,: "Не дагледзеў, не дагледзеў..." Выявілася, ён па радыё пачуў песню пра Янку, у якой былі свае аўтары: Вера Вярба і Мікола Пятрэнка. Яны па-свойму пачулі тое, што ідзе з народнага і што стала пазней сапраўды народнай песняй.

Улетку 1962 года мяне паклікалі ў войска. Стаў фельчарам артылерыйскага дывізіёна. За год службы – некалькі перавязак і дыягностыка аднаго фурункула. У вершаванай практыцы набытак быў большым. Салдацкая газета знакамітай Рагачоўскай дывізіі публікавала мае нататкі і вершы ці не ў кожным нумары. Па рэкамендацыі рэдакцыі я і трапіў з Уручча ў Львоў. Мяне чаравала сама назва горада, сваёй старажытнасцю вельмі падобнага на ўжо знаную Рыгу.

Я стаў культоргам факультэта журналістыкі Вышэйшага вайскова-палітычнага вучылішча СА і ВМФ і амаль сілком прымушаў курсантаў хадзіць на спектаклі ў найпрыгажэйшы ў свеце оперны тэатр, на

філарманічныя канцэрты. Але найбольшая радасць была ад таго, што мне пасля самападрыхтоўкі дазвалялі адлучацца ў бібліятэкі, архівы. А там – скарбы ўкраінскай і беларускай гісторыі, культуры. Вышукваў сляды Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Яна сябравала з сям'ёй вучонага Іларыёна Свянціцкага. І вось я ў тым доме. Мне даюць у рукі Біблію Францішка Скарыны, кнігі з аўтографамі Янкі Купалы… У спецфонды я змог праходзіць з фотаапаратам! Упершыню ўбачыў фота Максіма Танка ў вышыванцы, маладой Арсенневай, Забэйды-Суміцкага, Аляхновіча, Галубка… Фатаграфаваў старонкі "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага. Пра яе загаварылі ў Менску мо праз дзесятак гадоў пасля майго вяртання з Львова.

Перад адбоем вяртаўся ў казарму, дзе на тумбачцы мяне чакала лустачка хлеба з задраным рыбіным хвастом, драбок цукру. А ў рукамыйніку – вада з-пад крана. Затое ў сшытках адна на адну насядалі выпіскі, цытаты, слупкі бібліяграфій…

Даводзілася чытаць у львоўскіх музеях надпіс на слуцкіх паясах на лаціне: "Мэ фэцыт Слуцэ" ("Мяне стварыў Слуцк"). А я напісаў верш "Мяне стварыў Львоў":

На акварэльнай любаце
Бузок у Стрыйскім парку цвіў.
І ў Алаізіным куце
Свяцілася: "Мэ фэцыт Львіў"…

У Львоў (а ў беларускіх народных песнях – Альбоў) прыйшла да мяне і незвычайная радасць – выдадзены ў Менску мой першы паэтычны зборнік "Кастры Купалля" (выдавецтва "Беларусь", рэдактар А. Кудравец). Рыхтуючы да друку, "адгабляваў" яго Рыгор Барадулін. Удзячны яму за падтрымку, апякунства, за ўсе павучанні. З яго рэкамендацыі я і быў у 1967 годзе прыняты ў Саюз пісьменнікаў, хаця маё прафесійнае ўмельства было далёка не дасканалым.

Дзякуючы заступніцтву Максіма Танка, служыць пасля вучылішча я трапіў зноў жа ва Уручча. А калі даведаўся, што неўзабаве выправяць за мяжу, купіў магнітафон, каб запісаныя галасы Беларусі цешылі мяне далёка ад Радзімы. Зноў абабег сваё радзіннае поле ў Мёрскім раёне. На падкове Дзвіны запісаў на стужку сотні фальклорных аўтэнтыкаў. І сёння слухаю голас мамы, бабулькі Альжбеты, якая прымала мяне на свет… Напоўнена згукамі радаводная прастора. Песні – нібы аднаўленне дэкарацый Бабышак, Лявонпаля. І мелодыі ўжо не могуць сцерціся, зарасці бяспамяцтвам. Поле працярэблена згусткамі нязбытнай энергіі продкаў. Жывое народнае слова напаўняе мае паэтычныя радкі. Працягваюць узбагачаць мяне як творцу ўзоры народнага думання і маўлення.

У 1969 годзе з прыбабунькамі, купальскімі, жніўнымі, талочнымі песнямі я апынуўся на службе ў Цэнтральнай групе войскаў, у га-

радку Мілавіца над Лабай, за 30 вёрстаў ад Прагі. Горад Скарыны, Забэйды-Суміцкага... У вольны час – экскурсіі па зямлі замкаў, праца ў Страгаўскім музеі, у Славянскай бібліятэцы. Пасля рэдакцыйнай работы я не хадзіў "на півэчко", а перакладаў вершы чэшскіх паэтаў. Міхаіл Гарбачоў праз 20 гадоў пасля "Пражскай вясны" папрасіў прабачэння ў чэхаў за танкавыя калоны. А я сваімі перакладніцкімі пакутамі выбачаўся перад новымі сябрамі.

Мяне заўсёды цікавіла дыфузія культур, беларуская прысутнасць у свеце. Яркія сведчанні знаходзіў у Рызе, Львове, Вільні, Празе. "Мы для братніх народаў бяздонныя верныя донары", – пісаў Пімен Панчанка. Але ж і для беларусаў многа зрабілі суседзі па планеце. Пра гэта сцвярджаюць творчыя наробкі чэхаў Вацлава Жыдліцкага, Міласлава Зімы... Пад Прагаю, у Мілавіцы, пачалі складвацца мае "Пражскія прыпавесці":

Чакаю Прагу – вуснамі. Радкамі...
Яна расце крыжамі-чаранкамі,
Градчанамі і Кралаўскай заградай.
Чакаю Прагу – прагнаю і радай.

З-пад Прагі я трапіў пад Менск, у тое самае Уручча. А з 1976 года пачалося маё цывільнае жыццё. Яно было аздоблена працай у рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання і 14-гадовым рэдактарствам у выдавецтве "Юнацтва" пад апекай Валянціна Лукшы. У "Юнацтве" выходзілі і мае паэтычныя зборнікі, і кнігі дакументальнай прозы пра Асвейскую трагедыю. Помню згадку мамы: "Калі ты радзіўся, за Дзвіной гарэла неба". Асвейшчыну называлі Брацкім партызанскім краем. У 1942–1943 гадах там праходзілі жорсткія карныя экспедыцыі. У архівах Рыгі знайшоў дакументы на вязняў Саласпілса. І пачаў шукаць ацалелых пасля вогненных вёсак – у Ленінградзе, Кіеве, Рызе. Гутарыў з саласпілскай ахвярай у Нью-Ёрку, чытаў лісты асвейца з Марока... У Цінкаўцах пад Бігосавам набыў хаціну, каб адтуль пачаць вандроўкі па Верхнядзвінскім раёне. Паспеў наведаць былых вязняў Саласпілса, Майданака, Асвенціма, Равенсбрука.

Тыя сустрэчы з асвейцамі згадалі аб нашай народнай трывушчасці, узбагацілі прагаю жыцця. Цяпер у Цінкаўцах знаходзіцца музей "Хата бабкі Параскі", мае званне народнага. Трэба ехаць на Дзвіну адзначаць яго 30-годдзе. І зноў наперад – у мінулае! 1999 год – год заснавання Музея радзімазнаўства ў Лявонпалі. Там цяпер сельскі цэнтр культуры і вольнага часу, адзін на ўвесь Мёрскі раён. Што прамінула – не знікла, а засталося, хай сабе ў экспанатах музея і яго філіяле – "Хаце бабкі Ядзвіні". Дзе як не ў родным

Лявонпалі адзначаць мне 50-годдзе творчай працы – дату маёй першай публікацыі ў раённай газеце. Давядзецца зноў паўтарыць перад маладым земляком, мёрскім мальцам:

Тут падрасла арэшына-ляшчына,
тут голас мамы – голас ручая...
Жыве сцяжына,
твая сцяжына,
сцяжынка незарослая мая.

У бабышаўскім доме ў нас стаялі кросны. Але я зусім нядаўна даведаўся, што ткача, які нацягваў аснову, звалі так: панізь. Таму мяккі знак з наймення ткача-прафесіянала я часам устаўляю ў сваё прозвішча: Панізьнік. Не ўсе карэктары прымаюць мой сімвалічны мяккі знак. Але ж Сяргей Панізьнік і Сяргей Папар (гэта мой псеўданім) выдаў 13 зборнікаў вершаў (у тым ліку і для дзяцей), апублікаваў тры кнігі дакументальнай прозы і адзін спеўнік. А ў зборніку "Сустрэча роднасных сусветаў" (1977) змешчаны мае пераклады вершаў замежных паэтаў на беларускую мову і пераклады маіх вершаў на сямі мовах. Так я наперад рыхтаваўся да глабалізацыі.

Удзячны гадам уздымнай працы ў выдавецтве "Юнацтва". Там падрыхтаваў 10 тамоў зборніка гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына", "Падарожную кніжку Скарыны"... У серыі "Школьная бібліятэка" выйшлі ўкладзеныя мною кнігі пра Максіма Багдановіча, Кастуся Каліноўскага, Янку Купалу.

Вясной 2009 года споўніцца 15 гадоў, як узначальваю раду таварыства "Беларусь – Латвія". А ўвогуле паўжыцця аддаў вяртанню доўгу Янісу Райнісу, апекуну латвійскіх беларусаў, сябру Купалы. Спарадненне з Латвіяй у мяне асаблівае: у Юрмале пахаваны бацькі, там жыве і грамадзянка Латвіі Ніна Янсанэ, мая родная сястра.

Мой сабрыс на Даўгаве жыў.
Якія дайны ён злажыў!
Не брала плытагона змора.
Выводзіў крывічоў да мора:
Дзвіне–Даўгаве ён служыў.

У Рызе я атрымаў найвышэйшую ўзнагароду Латвіі – Ордэн Трох Зорак. Ёсць і медаль роднага Францішка Скарыны, дыплом ЮНЕСКО... Немалаважнай была і падзея 2003 года, калі я стаў ганаровым грамадзянінам Асвеі. А каб не турбаваць чытача пералікам выслугаў і высілкаў, працытую Алеся Бельскага, доктара філалагічных навук, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 2005 годзе ён выдаў кнігу "Беларуская літаратура

XX стагоддзя: гісторыя і сучаснасць”. Там ёсць артыкул пра мяне пад назвай “...І ўсе мае дні – Беларусі”. А. Бельскі мне ўяўляецца сапраўдным доктарам паэтаў. Вось як ён выпісвае мой анамнез жыцця: “Паэт жыве ў глыбокай лучнасці з родным улоннем, народнай песняй, па запаветах продкаў, шануе спадчыну, нашу пракаветную даўніну. У ім палымнее сэрца грамадзяніна, які па-сыноўняму заклапочаны лёсам Беларусі, роднай мовы, нацыянальнай культуры”.

Удзячна палагоджуся з доктарам паэтаў і надалей буду праўдзіць ягоныя словы. З фельчарскага навучання запомнілася выслоўе: “In poetis non Homere soli lokus est” – не толькі Гамэру ёсць месца сярод паэтаў. Паспрабую застацца сярод іх.

*2008* *Аўтар*

# 1

На беразе жыцця, на беразе Дзвіны
стаіць вялікі рум яшчэ з часоў вайны.
Сцякае з бервяна жывіцы даўніна.
А беражэ той рум і Волта, і Дзвіна.

Здалёку чую гул сасновага камля:
нібы заве мяне прыдзвінская зямля.
А я Дзвіне — ніхто, пакуль
(як ні лаўчы)
ляжаць мае сцягі, маўчаць мае мячы.

Здалёк свіціцца рум
бурштынавай луской —
і воляй баравой, і доляю людской.
З яго я свой ганок вяжу...
На быстраку
спазнаць жыццё ракі,
спазнаць жыцця раку.

## Два каласы

*Байка*

У нейкім полі жыта спела,
Тут сонца поўднем моцна грэла,
І нават ветрык не дыхнуў,
Ні адной былінкі не крануў.
Два каласы, што ў гэтым полі
Жылі на сонцы і на волі,
Суседзьмі лета ўсё раслі,
Размову ціха пачалі.
Адзін з іх жоўты і вусаты,
Вагой сваёю цяжкаваты.
Другі — пусты, ні даць ні ўзяць —
Ён стаў суседа распякаць:
— Чаго, калосе, схіліў голаў?
Нягожа тварам глядзець долу.
Вось бач, як я, за ўсіх вышэй —
Спявай, красуйся, харашэй!
Жніво яшчэ пакуль надыдзе,
Пражыць ты слаўна можаш тыдзень.
Прыдзецца доўга потым спаць.
А тоўсты колас змог сказаць:
— Што ж, весяліцца для карысці,
Для справы — так! Якое ж выйсце
Ты знойдзеш для сябе, мой брат?
Бо, бачу я... ты без зярнят.

* * *

Гаворыць пышна і без стомы,
Але ж ён сам — адна салома.

*18.08.1959*

## На вежах сумежжа

***(Выдаўцам краязнаўчай газеты "Мёрская даўніна")***

*...Дзісеншчына (цэнтр Мёры)... — стык розных культур, які пульсуе тут ад пары неаліту. Відаць, толькі на Дзісеншчыне — і нідзе больш — ляжыць ключ-адгадка да таямніц беларускага этнасу.*

Юрась Пацюпа

Чым налітая яна,
неаліту сівізна?
Тут і рунаў ярына,
Полацка аглядка...

Што такое даўніна?
Таямніцаў баразна.
Вунь кургана круцізна, —
там і ключ-адгадка.

Счэзлі "Мерыца", "Павет"...
У палацы знік паркет.
А крыжак, баярын, швед
адышлі за горы.

Хай вышуквае сусед,
дзе яго ваяцкі след.
Скажа кожны сельсавет,
што такое "Мёры".

Вы на стыку. На хрыбце.
На гары — у віднаце.
Даўніна паўсюдна, дзе
ходзяць "арганаўты".

Іх руно і на вадзе,
і ў знаўцá на барадзе, —
залацее пры хадзе
да адважнай праўды.

*2011*

## У разрыве мацерыкоў

У думках – там,
дзе пад брылём Ілля
намерыўся ў Дзвіну
спусціць ільдзіну.
Ад хвалявання круціцца Зямля,
ці толькі я,
падставіўшы ёй спіну?

Між полюсаў лагода і адчай.
Сябе вяртаю
на папар – у мыслі...
Адцвіў у жоўтай сіле малачай –
і дзьмухаўцы бялюткія павіслі.
Завіс і я
ў разрыў мацерыкоў:
і там і тут пакарацела лета.

Радзіма – гэта лінія вякоў
з тугою кругавінай бранзалета.
Там сам Ілля у зацені брыля,
там Спас, Прачыста,
Ўзвіжанне народа...
Лячу! Насустрач круціцца Зямля.
Вунь і Дзвіна –
за першым паваротам.

## Волта – дачушка Дзвіны

Хва́лю хвалю́:
мяне люляе,
каменьчыкі агаляе.
Праменьчыкі
над Волтай лаўлю.
Хва́лю хвалю́.
І лашчу. Тут нашча
боўтаюся. Асвойтаўся!
Волта ўся
не рачулкай-качулкай
плыве – Дунаем!

З ёй мы сваяцтва
палабскага славянства
узгадняем.
Волта і цяпер вядзе
між пнёў, агародаў
Вялікае Перасяленне Народаў.
Мне не быць у бядзе,
не спыніць дыялогі.
З ёй на Дзвіне
і крэслы-парогі
каменныя перакулю...
Хвалю́ хва́лю.
Хва́лю хвалю́.

*23.01.2009*

## Вольнаму воля,
## багатаму рай

*Лексіка — не толькі ўзоры народнага думання і маўлення, а яшчэ і наша памяць, наша мараль, наша этыка.*

Янка Сіпакоў

“У гэтым годзе” — сёлета,
“Ў мінулым годзе” — летась...
На мудрым слове — золата,
на трапным слове — ветразь.
Якое дрэва, такі і клін.
Які бацька, такі і сын.
Не ў жорнах перамолата
зямлі маёй карэнне, —
ліняюць фразы-волаты
у думанні, маўленні.
Хто мяняе, па тым хамут гуляе.
Грэх у мех і сам наверх.
Расту з народнай помнасці.
Выслоўе — як гасцінец...
Стаіць на строме роднасці,
мялёнам б’е прыдзвінец:

— ...Сем разоў на начы,
Восьмы раз устаючы.
А дзевяты на зару:
выйсці з хаты — упару...
Пайду на любкі, прымаўка,
дам слова на дабрыдзень.
Радзіма-легкакрылаўка
не будзе жыць у крыўдзе.
Адбярэ Божа сорам — будзе й корм.
Пераначуем — яшчэ болей пачуем.
Абласлаўлю на па́чассе, —
замовы і зычэнні...
Агучуся — убачуся
ў сумоўным атачэнні.
Маладзік малады,
твой ражок залаты!
Табе злота карона,
а мне шчасце й здароўе.

*24.07.2008*

## Чортаў пастух

*Тым беларус і жывучы —*
*кропляй балцкай крыві.*

Васіль Зуёнак

Пад жульвіцай[1] віліджынец[2]
путраю[3] паджалюбаў[4].
Лупы[5] выцер. Карак жыліць.
Ветах вяплай[6] абазваў.

---

1 Жульвíца — вярба, ракіта.
2 Віліджы́нец — хлопец-непаседа, няўрымслівы, раскол; з летувіскай мовы — чалавек, які можа ўпасці чарцей.
3 Пу́тра — каша; у латышскай мове — поліўка з соладавай мукі.
4 Паджалюба́ць — перакусіць.
5 Лупы — губы.
6 Вя́пла — разява.

Гулі[7] лахнуліся[8] з лесвіц,
сталі князгаць[9] ля глыжоў[10],
лярва[11] скокнула да весніц:
вызваў бэйбус[12] з Латышоў[13].

Там ратай жыве. І ў пуню
прэ юрлівы вісус[14] крэўс[15]:
— Так бабуні падлабуню[16] —
разжагерыцца[17] навес.

Крэкчуць жэгіны[18] і лагі,
боб стаў пражыцца ў кітах[19]...
Лахі я сабраў пад пахі,
абжаргаў[20] скрыпучы страх, —

каб не змяў баўтрук[21]-чужынец,
ці гарэлік[22] на гальні[23]...
Пазавіце: "Віліджынец!" —
прытулюся да радні.

Гудам[24], сабрысам[25], ліцьвінам
крыкну: "Свэйкі[26], сваякі!"
Хто з капусты, з-пад бацвіння, —
з намі бацяны Прыдзвіння
будуць пасвіць тут вякі!

*13.09.2011*

---

[7] Гулі — спаткі (у калыханцы: "Люлі-люлі, прыляцелі гулі..."). 
[8] Ла́хнуцца — нечакана ўпасці. 
[9] Князгаць — нясмела ўпрошваць. 
[10] Глыж — круглявы камень. 
[11] Лярва — непрыгожая (у летувіскай мове), выскаляка (у комі-пярм.). 
[12] Бэйбус — гуляка, ветрагон. 
[13] Латышы — вёска ў Мёрскім раёне. 
[14] Вісус — свавольнік, гарэза. 
[15] Крэўс — жыхар Крэўскага княства або крывіч. 
[16] Падлабуніць — зававіць ласкай. 
[17] Разжаге́рыцца — растапырыцца. 
[18] Жэгіны — вешалы, ключы. 
[19] Кіта́ — звязка бобу, падвешаная для сушэння. 
[20] Абжарга́ць — абшчаперыць нагамі. 
[21] Баўтрук — ненажэра, дармаед. 
[22] Гарэлік — замена забароненаму слову "чорт". 
[23] Гален — голы венік, венік без лісця. 
[24] Гу́дамі ў Летуве завуць беларусаў. 
[25] Са́брыс — добры сусед у латгальцаў. 
[26] Свэ́йкі! — вітанне ў латышскай мове.

## Магнітафон

*Мяркую, што па меры ўмацавання*
*дзяржаўнасці праблемы мовы і культуры*
*будуць вырашацца больш узважана*
*і аб'ектыўна. Спадзеву надае і надзвычай*
*багатая дыялектыка нашай мовы,*
*якая далёка не вычарпана.*
*Асабліва на поўначы Беларусі, у рэгіёне*
*старой крывіцкай цывілізацыі,*
*дзе наш этнас найменш размыты.*

Арсень Ліс

Магнітафон, мае сябры,
я маю беспадобны.
Ён у мяне стары-стары:
напэўна — дапатопны.

Яшчэ жыла мая радня, —
збіраўся на край свету:
і песні землякоў да дня
пісаў я на касету.

З якою спадчынай жылі
і цёткі, і бабулі!
Прыберагаю: на зямлі
няхай бы ўсе пачулі...

Зноў тыя песні уключу:
напевы — расяныя...
Нібы на сэрцы я вярчу
усе вузлы зямныя.

Кручу-вярчу, як сонца шар,
бясконцай стужкі памяць.
А слова-цуд і песня-жар
усе хмурынкі паляць.

Вякоўны фон, магнітафон,
не заглушы ў разоры.
Чысцейшы тон — Радзімы звон.
Званіце ж, продкаў зоры!

Звініце, песні нашых мам,
ірвіцеся з касеты...
Каму магнітафон аддам?
Хто хоча — у паэты.

Хто хоча век наш паяднаць
са спадчынай балючай,
да новай песні падабраць
свой, асабісты, ключык:

і хто запіша ў цішыні
на відэакасету
і продка цень, і нашы дні, —
усё пакажа свету.

Магнітафон стары засне
сярод былых рэліквій.
А песні мамы
ува мне
(ён будзе чуць) не зніклі!

*2007*

## Садоўнік з Царскага Сяла

*Памяці дзеда па кудзелі Рыгора Селюна*
*(н. у 1880-я гг., в. Сцебіракі на Вілейшчыне —*
*† 1939, Ленінград)*

Мой дзед на Чарнарэчанскай жыве.
Не водар нарачанскі ў галаве.
Навошта ружам цар?
У Піцеры пажар —
і па крыві імперыя плыве.

Садоўніка савецкі каляндар
правёў на Серафімаўскі цвінтар...
А Ганну з малышнёй
і продкавай раднёй
карміў прыдзвінскі, пастушкоў, нектар.

Ля Чорнай рэчкі — памяць капяжоў.
Унук яго надгробак не знайшоў.
Дзе бронза і браня, —
гісторыі крутня:
ні надпісаў, ні продкавых крыжоў.

Дзе ружа і карона? Мурава...
Да пабачэння, дзедава Нява!
Прытулак Селюнам
нясу ў Лявонпаль. Там
ачуецца ў музеі галава.

Лявонпаль — радаводны маўзалей.
Прашу я там шыпшыну: "Ружавей —
Ганэткай маладой!.."
З Рыгоравай бядой
рыфмую цені-лініі алей.
І графскую шыпшыну над ракой
цалуе мой садоўнік — салавей.

*2010*

## Хай пашчасціць

*Сястры Ніне Янсанэ*

Можа век з цішынёй і ўжывецца —
дзень за днём,
          дзень за днём,
                    дзень за днём...
Тое, што пасля нас застанецца, —
за нашчадкаў цяпер памянём.
Пасядзім у бяседзе зычлівай,
паглядзім на сябе, на другіх.
Што нам выпала з долі шчаслівай,
што мы выбралі:
вечнасць ці міг?
І калі мы падступім да краю,
дзе ацэняцца нашы шляхі, —
хай пашчасціць ісці не да раю —
пад крыло той духоўнай страхі,
дзе прыйшоў за сястрою ў нядзельны

родны край, летапісную золь...
Шчыра дзякую, век мой надзейны,
за хлеб-соль,
        за хлеб-соль,
                за хлеб-соль.

*2006*

## Радаводная радасць

*Пляменніцы Жанне Панізьнік,*
*якая адгукнулася з Краснаярска*

Разбегліся Панізьнікі
па свеце як па садзе.
Адны — на волі лісцікі,
другія пры пасадзе, —
як Паўлавіч у Нерынгры,
Альгерд у польскім сейме...
...Траплялі мы і ў нераты,
але не знікла семя!
Аўстралію да Юрмалы,
Гурон да Селігера
прышвартаваў не юр малы, —
багіня шлюбаў Гера.
І Полацак, Бігосава,
Лявонпаль, Мёры, Дрыса
нясуць  да Бога босага
Панізьнікаў абрысы.
Мне з Мётлаў акушэрачка,
юрыст — мінчук фарсісты, —
галінкаю ці жэрдачкай
на Дрэве прамяністым.
З антычным Панам ветласці,
заможжа, непакоры
нам быць раднёй у еднасці,
апораю — у зморы.
Няхай глядзяць капрызнікі
на нашы амулеты...
Мы, смелыя Панізьнікі,
яднаем кантыненты!

## У нажытак

*Сп-ні Вользе Грыцук (Дуброўскай),*
*суайчынніцы з г. Дзісна*

Кляновы ліст падняў
                    далоньку.
Удзячная мая рука:
Вясёлай восені старонку
Чытаю з першага радка.
Клён, як і я, натхнёны Маем, —
І ў лістапад мы не гуляем.
Пра-жы-лач-ка-мі супадаем!
Не дзіва: зроду сваякі.
І наш нажытак ля ракі
Кладзецца ў Летапіс.
Радкі
      шыфруе вечар гаваркі.
Іх на дабрыдзень пакідаем.
Зімой сябе перачытаем
І — у пупышцы — адпачнем.
Праб'ецца ліст...
Сцяг — утрымаем!
З яго і сакавік пачнем.

*2011*

## Спірытычныя выявы Пушкіна

*Наталі Бучынскай з Мілашова*

Пушкін клікнуў: — Наталí!
Не мяне, дык хоць Арыну
Боскай ласкай наталі!
Пецярбург я кіну-рыну
І — ў Міхайлаўскую гміну.
— Бабка! — Там скажу: — Налі!
Вып'ю за тваю Айчыну.
І яшчэ знайду прычыну:
На ліцьвінскай той зямлі
Шмат прыгожых Наталі
Лёс узнёсласці спаткалі.

Між Наталяў ёсць і ткаллі.
Радзівонаўна! Іх кросны
Ткуць гук зычны і галосны, –
Аж да Пскова ён ляціць.
Хай Міхайлаўскае спіць,
Ды пад ім гудзіць Апочка,
Ў Мілашове крэкча ночка...
Мой Астроўскі-дваранін –
Беларус-грамадзянін,
Бо... іздревле нам родной
Люд з пякучаю струной!

*24.09.2011*

## На Узвіжанне

*Алене Масла*

Зорка Мілаша не згасла:
З Мілашова наша Масла.
Быццам з Мілаша калена
Непаўторная Алена.
Пачуваюся за Пана
Ля дачушачкі Сцяпана.
Урадлівая прырода
Ўнебаўзнёслага народа!
Мой паклон з-пад рэчкі Волты
Ўсім анёлачкам Ідолты.
Хай раднее рэчка Вята
На узвіжаньскае свята!

*22.09.2011*

## Сляды продкаў

Так скажу вам: Наўгароды
Параднілі два народы.
А Сіповіч, а Цітовіч,
А Туронак, а Драздовіч,
Даўні абаронца Клёт –
Узраднілі свой народ.
Бараніў і Пётра Просты
Ад звыроднае каросты.

Камянполле, Каланіца
Не даліся пакарыцца.
Вось і з рэчкі Хабароўкі
Не скруціў вараг вяроўкі.
Слабада, Лявонпаль, Снегі —
Гэта нашы абярэгі.
Ад Міжрэчча праз Узмёны
Верай мацярык натхнёны.
Ведаюць тут ліпы, клёны,
Дзе любоў, а дзе мана,
Сведкі — Чэрасы, Дзісна
І рака Рубон-Дзвіна.
Уступі на продкаў след, —
Пойдзе рэха на ўвесь свет!

*23.09.2011*

## Запрашэнне радзімазнаўца Вітаўта Ермалёнка

Касавурыцца сонца,
І гнуцца
Даўганогія дні.
Сходзім, творцы,
Мае аднадумцы,
На адведкі радні.
Хай куляецца сонца на захад
галавой пад камлі.
Хто — наўскос,
Хто — угрунь,
Я наўзахап —
След вядзём па зямлі.
Не ўразлад!
І нас выкаціць сонца
На вясновую гаць...
Будуць промні
Ў мурзатай праломцы
Беларусь цалаваць.

*2011*

## Лявонпаль–2005

*Удзельнікам выставы лявонпальскага*
*пленэру "У пошуках Атлантыды"*

Над роднаю Дзвіною — серабро
Яшчэ не звечарэлае зары...
Не прамінуў я лепшае пары:
Прыносіла Лявонполю дары
Супольніцтва
Няспуджаных
Сяброў.
Нашэптамі шурпатае кары
сасна вяртала продкаў запавет.
Каб ад натхнення
узнаўляўся свет, —
нам нельга прамінуць сваёй гары:
уласны след расою акрапіць,
уліць у золак маладую кроў,
узяць
жытло Айчыны
пад Пакроў.
Хай сніць Лявонполь творчыя дары!
Ад іх нядрэмна дыхалі бары,
зырчэла Атлантыда на двары,
сузор'яў не журылася журы...
Хто змог
з Лявонпальскай крыніцы піць, —
цяпер асуджаны ў атлантах быць.

*07.02.2006*

## Грамніцы

*Спадарыні Зінаідзе Лакотцы,*
*ветэрану школьнай асветы*
*ў Мёрскім раёне*

Ляцелі
над Дзвіной
на крылах Вы:
хацелі
з навіной
ў Чурылава.

Прычалы
і ў трысці —
прыметнікі...
Злучалі
Вы ў жыцці
прасветлінкі.
Разбежны
пчолаў рой
нектарыцца, —
усцешны
Ваш настрой,
настаўніца.
Хай чуе
юбілей
з Грамніцамі:
вяшчуе
салавей
ў святліцу Вам!

*2010*

## Мова (Lingua)

*Міколу Крыўко, мовазнаўцу,*
*стваральніку “Дзісенскага слоўніка”*

Наўздыб сталіцы грыўка:
агні рэкламу гнуць.
Начной кавярні дрынкат...
Хто ведае пра скрынку,
дзе Слову — не заснуць?
Глыбіннага маштабу
там скарбы. Не абняць
лінгвістыкі прарабу.
Ї браму ты на штабу
не звыкся зачыняць.
Акругі і паветы
жылі на скразняках.
Адметы-запаветы,
свайго санскрыту веды
гулялі па вяках.

Ты з Менску на Прыдзвінне
глядзіш не з вышыні.
Там — нешта! — у пупавіне.
Тут — рэшта — у таміне...
Агменьчыкі згарні!
Ад кропелек прычасця
глыбінка заіскрыць.
Узнесціся — не ўпасці.
Вярнуцца — не прапасці.
І нельга мову скрасці:
яна ў крыві гарыць!

*18.07.2004*

## Дзянніца-заранка

Скарбамі Айчыны падзяліцца
хочацца з вясенняга каўша.
Для духоўнай лучнасці — дзянніца,
для сардэчнай повязі — душа.

Беларусь між Захадам і Ўсходам
пазваніла ўключынай вясла:
і сама адкрылася народам,
і ў сябе красу іх прыняла.

Аддаліцца нельга. Парадніцца
можна, прыручыўшы рубяжы.
Ветлая заранычка-дзянніца,
любасныя сэрцы калышы!

На планеце ля дзяржаўных вежаў
весніцца сваяцкая душа, —
і няма — у роўнасці — замежжа,
і знікае — ў роднасці — мяжа.

*2006*

## У абдыме

*Генрыку Дмахоўскаму,*
*скульптару, паўстанцу*

Трымаў Сусвет
з гняздом у Забалоцці.
Скульптурай Волі
уяўляў народ...
А карнікі
у злосным карагодзе
шукалі, дзе жыве Іскарыёт.
За трыста срэбраных
прадаўся юда
і выдаў патрыёта
пад кап'ё...
...Праз дзвесце летаў
мы чакаем цуда:
затопчацца калючае куп'ё, —
мы знойдзем пераброддзе
у пагодзе,
пазнаем запавета пазнацвет.
...Адчуем поўніцу
ў сваім народзе, —
прылашчым
і Дмахоўскага Сусвет.

*2003*

## На друйска-дзісенскім шляху

*Рэлігія дала народу культуру і цывілізацыю,*
*а таксама законы жыцця і працы людзей.*
*Мастацтва дае лучнасць народу.*
*Праз мастацтва мы пазнаём нацыю,*
*дзяржаву, рэлігію і культуру народа.*
Віктар Жаўняровіч

Наведаць можна і Парыж,
калі жыве там родзіч.
А тут стаіць збуцьвелы Крыж,
і — ценем — Жаўняровіч.

Хоць афранцужаны, а свой.
З ім возеру вітацца
вадой балючай і жывой
з лілеямі – для працы.

Эцюд мо і ў Нью-Ёрк сплыве...
Маляр глядзіць на Язна.
Ў яго прыдзвінскай галаве
як на мальберце ясна:

– "Жніво"... Вазьму ў вязьмо Версаль.
Зямляк! Трымай калыску,
а з ёй і Рэпіна медаль...
. . . . . . . . . . . . .
...Не піша Жаўняровіч даль:
ён Друю бачыць зблізку.

*21.06.2005*

## Яну Рышарду Курыльчыку[1]

Чарговыя адведзіны
хлапчыны з вёскі Дзедзіна:
Ян Рышард, пан Курыльчык
смакуе сала скрыльчык
з "павяту Браслаўскега", –
бо там Радзіма снегу,
"Славянскага світанка"
і дзісенскага вечара...
Акрайчык хлеба – лечыва,
а моцных зёлак шклянка
згадае: дзеці Дзедзіна
(дзе з росамі палянка)
у ростані уплецены.

[1] Ян Рышард Курыльчык нарадзіўся ў в. Дзедзіна (Мёрскі раён), жыве ў польскім горадзе Слупску. Спецыяліст у галіне будаўніцтва электрастанцый. Быў намеснікам міністра інфраструктуры Польшчы. Яго пяру належаць кнігі "Ерусалім, Ерусалім", "Нязломны з Назарэта", "Сакрэтны архіў Камбоджы" ды іншыя. Лаўрэат некалькіх прэстыжных літаратурных прэміяў.

Бо там у вырай з вільчыка
узнесліся Курыльчыкі.
І вось ён зноў спатканы,
прыняты ў наш хаўрус
ліцьвінскі беларус,
апошні з магіканаў
у Рэчы Паспалітай.
Курыльчык знакаміты!
Яго цяплом сагрэты
"Нязломны з Назарэта".
І нашы сэрцы цешацца,
бо дзедзінская сцежыца
не абарвецца ў золь:
Бутэвіч Анатоль —
нязбытны пабрацім —
перастварае далі ўсе
і мы яшчэ ўчытаемся
у Ваш Ерусалім.

*10.12.2010*

## "Шчыра пра сябе..."

*(Для меркаванага выдання кнігі споведзяў)*

***– Ці падабаецца вам вашае імя?***
***Ці не шкадуеце, што не дасталося якое іншае?***
Няспраўджаным каханнем мамы
названы я.
Я — самы, самы, самы...

***– Які колер вачэй і валасоў падабаецца найбольш?***
Вочы — неба. Валасы —
ласай ночы каласы.

***– Якія станоўчыя якасці ў чалавеку найбольш цэніце?***
Людзей станоўчых паважаю
і "палажыцельных" люблю.
Згінастыя не варты жалю.
А "паўзуноў" я не кармлю.

***– Якія чалавечыя заганы не церпіце?***
На эміграцыю загнаны –
Ў закутак родны свой...
Закуты,
Свае падлічваю заганы.
Яны так і завуцца: путы.

***– Ці верыце ў сяброўства?***
Калі няма да сябра веры, –
краніся рыфмаю паперы:
а раптам слоўнае сугучча
у нацыю і нас улучыць?
Саспеем – і мы ўсю Краіну
"зрыфмуем" у адну сябрыну.

***– Які ваш любімы занятак?***
Люляю словы, як арэлі.
Ї не трасянкаю кармлюся.
Хачу я, каб і вы сагрэлі
нямыя грудзі Беларусі.

***– Як вы разумееце шчасце, шчаслівы лёс,***
***шчаслівае жыццё?***
Стагоддзямі мы жалімся і просім...
Каму? Каго?
Свой горб ахвотна носім.
Не выпрастаемся –
і нам не стаць па восі
хрыбетніка свайго.

***– Які момант у жыцці вы лічыце самым радасным?***
Мой успамін жытло малюе
(пазней яго калгас растрос):
дзіцё спявае "Алілуя!",
а дзецюкі "Хрыстос ўваскрос!"

***– Які момант быў самы горкі, нешчаслівы?***
Усё з гаркотаю сплыло.
А ратавалі мамы слёзы, –
калі ламаў свае калёсы,
калі выкручвалі крыло.

***– Чаго яшчэ хацелі б у жыцці дасягнуць ці дачакацца?***
Не заракаюся: "Пашчасціць..."
З нябёсаў не было дароў.

І не манюся: “Жыў-здароў...”
Калі Айчына – не прычасце,
няма ў яе гаспадароў.

***– Якая асоба ў гісторыі чалавецтва***
***вам найбольш сімпатычная?***
Чало і Век: гатоў партрэт.
Пчала... Скарыны сілуэт.
...Ці ж будзе Веку і Пчале
узятак на маім чале?

***– Герой якога рамана ці іншага***
***мастацкага твора вам блізкі?***
Мацюк нясецца з агарода.
Памёр фальклор з Душой народа?
Не разняволіцца Душа, –
не буду варты я й граша.

***– Ваш любімы паэт, празаік, кампазітар,***
***жывапісец?***
У генія скразны палёт.
(Я – выраю – скаруся).
Купала, зрынуты ў пралёт,
ляціць над Беларусяй.

***– У чым, на вашую думку, найбольш поўна***
***праявіўся геній прыроды?***
Слана і Муху за каўнер
цягалі. Іх віна – памер.
У спрэчку ўбіўся Сатана
(ён з Мухі выняньчыў Слана):
– Тут вінаваты толькі слон.
Ідзе да Мухі на паклон.
* * *
Так і не ведае Слуга:
духоўнасць – не аб’ём, вага!

***– Якая жывёліна (звер, птушка)***
***Вам найбольш прыемная?***
Фенікс! Попелу падкінем:
не адродзімся – загінем.

***– Якая ваша любімая страва?***
Чарка, скварка і варголы...
Будзем шлункі пахмяляць, –
зноў накінуцца манголы...
Хто нас будзе вызваляць?

***– Пра якую мясціну на зямлі застаўся самы прыемны ўспамін?***
На продкавым хутары пекла і рай.
О Маці, ты наш Мацярык даглядала.
Адтуль пачынаўся радзінны мой Край.
Я зноў на краёчку. Краіны не стала.
Бес-пер-спек-тыў-ныя хутары...
Вярну Беларусь я на тыя двары?

***– Калі б лёс прымусіў пакінуць Радзіму, якую краіну выбралі б?***
Пакуль зусім не занядужаў, –
свой выбар думнасцю адужаў:
навошта пакідаць чысцец?
Краіна Перасялення Душаў –
усё Прыдзвінне: мой вянец
і продкаў межавы капец.

***– Ваша ўяўленне пра сямейнае шчасце?***
Сям'я – маленькая дзяржава,
дзе нацыя гадуецца.
У нас жа бацька – слуп іржавы,
бо маці – вуліца.

***– Пра якую нескарыстаную магчымасць на сваёй жыццёвай дарозе шкадуеце?***
Планіда скручвае мяне.
Жыў пры вайне і па вайне...
І ўсё ж таго няма ў мяне,
за што ўміралі на вайне.

***– Ваша стаўленне да ўдзелу ў палітычным жыцці краіны?***
Палітыка – усенародны зрух:
тут кожны – тычка, кожны – зух!
Да ўлады буду я старонні –
і мышы папаўзуць па троне.

***– Ці ёсць у вас фінансавая мара?***
Калі уласны талер будзе —
запішуцца й бамжы у людзі.

***– Што (які матэрыял, тэму)***
***шукаеце найперш у свежых газетах?***
Што такое “свежая” газета?
Жоўтая — нясвежая. А гэта,
з ордэнам савецкім, ці чытанка?
Ох, на п’едэстал яе, да танка!

***– Якую кнігу (твор) любіце перачытваць?***
Мы Самаеды. Наш духоўны крах
прытупае з размоўнага разводдзя...
Я “Лемантар” чытаю па складах —
як Біблію Дваццатага стагоддзя.

***– Ці верыце ў непазбежнасць,***
***наканаваную лёсам?***
Ніхто не выкруціцца т а м ,
дзе пад рэнтгенам Справядліўца —
аблічча, твары, морды, “ліца”,
а сведкі — толькі слугі Бога.
Прадаўцам роднага, святога —
пакуты вечнага астрога.

***– Якая яна – жанчына вашае мары?***
Дарога сцягі завівае.
А мы
вяртаемся з калымы:
зноў я —
старшыня зімы,
яна — вясны звеннявая.

***– Вашае стаўленне да рэлігіі?***
Жыў і бязбожнікам я. Можна
душу бяспраўную бязбожна
здаваць у наймы фарысеям,
служыць каронам і расеям...
Пустую можна галаву
ў касцёл уткнуць, або ў царкву, —
не будзе бубен дабрасеем...
Я ў сэрца Бога пасяліў.

Вакол паменела пустэчы.
Чакаю, блудны сын, сустрэчы
з амбонам роднае зямлі.

***– Ці верыце ў прыкметы?***
Былі праpокі і зануды.
Гучала: “Асадзі!” і “Злезь...”
Народ, стагоддзямі прыгнуты,
так і не выпрастаўся ўвесь.
Бо не мацуюць пазванкі
ні дом, ні школьныя званкі.

***– Ці прыслухоўваецеся да чыёй-небудзь думкі, прымаючы рашэнне?***
Мой люд – жардзіны ў гарадзьбе.
Мой люд – каронная аправа...
За тое, што люблю Цябе,
і ненавідзець маю права.

***– У чым, на вашу думку, нацыянальная ідэя Беларусі?***
Ідэя – рунь, сцябло, калоссе.
Ідэя – вязніца-закратак.
Ідэя – тое, што ўзнялося
над вольнай памяццю зярнятак.
Нацыянальнае ўзгалоссе
па-над галовамі прыўзнята...
Яшчэ паўкрока, без аглядак,
да Беларусі засталося...
Ідэя – прысвятак да Свята.

***– Якой Вы бачыце Беларусь праз...?***
А Беларусь не пераклеіць,
не сцерці з карты... Завадатар
загнецца, стахне – не ўваскрэсне.
Я сам – Яе абруч-экватар.

P. S. **Паспаведнае**

Сполахам
сполаты
спод:
спраты выношу на спогадзь.

Спомню затоены код —
споўню жыццёвую споведзь.
Страты святла — ўпільнаваць!
Слова — не споднік і зводнік:
варта сябрынаю браць
зваду — і несці на ходнік.
Споведзь — асмеласці зрух,
спадкі сумленнага Звону...
Спозняцца мыслі — і круг
не разамкнецца да скону.
Сэрцайка, смагу глушы:
СПОВЕДЗЬ — ратоўная праца...
...Стала лягчэй на душы.
Хочацца зноў усміхацца.

* * *

Хай палюднее ў глушы!
Споведны свет не чужы:
радасна будзем вітацца.

*Верасень 2002*

# 2

Паэты ў кожнага народа —
узвышыны громаадвода:
а з імі мацярык — трывалы.

Мы на Зямлі — паэты ў хаце.
Паўторым з імі словы маці, —
каб выветрыўся груз навалы.

Твая душа не зачарсцвела?
Напоўнімся мы сёння смела
нажыткам Коласа, Купалы...

Лягчэй з іх спадчынным абрусам
быць сёння ў свеце незаспаным
Паэтам,
Сынам,
Беларусам.

## Малітва Скарыны

Во гэтак сама як дзічына
на дальні выбегла лужок,
а прызнае сваё лаўжо;
як птушачка: з-пад аблачыны
палі, разлогі аглядае,
а ведае сваё гняздо
ў траве высокай і густой;
як рыба: ў чарадзе гуляе,
плыве да берага чужога,
а чуе родныя віры;
як пчолы: ў полі да пары,
а ворага ля іх парога,
вулей баронячы, зваюють;

таксама й людзі: да зямлі,
дзе ўзгадаваныя былі,
дзе Бог ім сэрцы акрыліў, —
любоў вялікую мілуюць.

*06.11.2009*

## Полацкі псальм

Папірус — асака:
сцябліны з дэльты Ніла.
Руплівая рука
палосы нахіліла:
пад прэс
крыж-накрыж
лёг
скрыпучы слой… І скрутак
запакаваны ў лёх.
Стыло хаваў у смутак
апостал, ці прарок:
успамінаў імёны.
А выявіў радок, —
запелі
псальмаў
звёны.

Ствараўся Запавет
усім народам свету.
...Пры мне Скарыны след
і блікі сілуэту:
ішоў праз асаку
ў біблейскія прасторы...
Мой шлях цераз раку —
у Беларусь-скрыпторый[1].
Вунь — Полацак-Вянок!
Мяне, каб Словы сеяў, —
папірусны ганок
трымае, як Майсея[2].

*2007*

## Брывастая літара

*Помніку “У” нескладоваму ў Полацку*

Поруч полацкіх сцен
помнік — горды старчак:
ускрылёная “Ў” —
мой уздых-асалода.

Не таўро на ілбе,
і не арыяў знак:
“Ў”, брывастае “Ў” —
ад здзіўлення народа.

Цераз помнік пралёг
старажытны прамень.
На гадзінніку круг —
чыслы даўніх прычалаў...

Мова — нацыі рух!
...І куляецца дзень
са Скарынавай поўні
ў гняздо крывічанаў.

*27.07.2011*

[1] Скрыпторый — асяродак, дзе даўней перапісвалі кнігі.
[2] У ладдзю з папіруса маці паклала маленькага Майсея і даверыла плыні ракі.

## Любімось!

*Любімось, мае суседзі!*
Янка Купала

Стала цесна на планеце:
спадкі і манаткі...
Любімось, мае суседзі!
Кіньма сваркі, звадкі.
Мне б самому далучыцца
да Шэнгенскай візы, –
як Скарыну, падвучыцца,
стаць ля Моны Лізы,
нахіліцца да надгробкаў
зорак суайчынных...
Любімось! Не для заробкаў,
для абдымкаў чынных, –
жыць у згодзе, а не ў тайне
злых, ліхіх сакрэтаў;
на пазыку і вяртанне
родных рарытэтаў...
Беларусь на белым свеце –
мой і ўсіхны добыт.
Любімось, мае суседзі!
Мілату – у побыт!

## Напруга прагі

Цывілізацыі немату
кволіць не ад марозу.
Трапілі вершы ў густую слату:
ў здушаных душах – проза.

Ка́ра кары́ і на фібры лягла.
Клопаты – у бязвыссі.
...Недзе варочаецца скала.
Свет, у натхненні ўзвіся!

Лопне на дрэве застылым кара –
і пазванчэе дрэва.

Ёсць для радка – адуростка пяра
верацяно сугрэву.

Перасмыкнецца Коласа смык,
Купалы жалейку знойдзе.
Вернецца вершу яго мацярык.
І на высокай ноце

люд абагрэе мудрэц Саламон
Песняю Найвышэйшай.
Для адраджэння не сыдуць на скон
Богавы й нашы вершы.

## Матчына малітва з дна мора дастане

Міргалі сполахі
        з-пад калясніцы грому.
Пярун глядзеў
        на тузаніну дрэў, –
біў па камлю
        высокаму, старому...
...І я калісьці
        свой удар сустрэў.
Быў пад крыжом Хрыстовага узросту.
Мне класавую пільнасць вымяраў
        парткам: капээсэсаўскаму “госту”
хапала сведкаў і даносных спраў.
        Прасвідраваны кіпцямі маланак,
я чуў параду з патаемных скрынь:
        “Пакайся й асудзі сваіх, адрынь
чужую бель з чырвоных нашых планак”.
...Сварыўся Бог.
На маму не сварыўся,
        бо за мяне малілася яна.
Грымоццю мой камель
        не пакарыўся.
Я й сёння не баюся Перуна.

*22.08.2011*

## Падкрылкі для падтрымкі

*Не за тое згалелі,*
*што пілі і елі,*
*а за тое, што Бог ня даў.*
Прымаўка

Дню нараджэння хітры Цэльсій[1]
так мала выдаў цеплыні:
– На сонейка, – сказаў, – не цэлься,
прасі ты травеньскія дні,
каб твой columna vertebralis[2]
нібыта градуснік стаяў,
ну а чмялі нектар збіралі,
каб верш астылы акрыяў.

– Удзячны, Цэльсію, за квоты
майму цярпенню на мяжы:
амаль хапіла іх для цноты,
калі кідалі на глыжы.
Але ты памяркоўнасць нашу,
мой дружа, апусці на дно.
Не цельпуком пайду на пашу, –
кіпець з Дуброўнай заадно.

Вярні нядаўнюю ты згубу:
даспехі, гонару стырно...
Статут я не чытаў даўно.
Падкрылкі перамен узважу,
сатру з рабра Адама сажу, –
шэнгенскай візаю пагладжу
яшчэ замкнёнае акно...
Што Бог не даў, пазычу ў Неба –
і з лахманоў спадзе ганеба.

[1] Андрэй Цэльсій прапанаваў 100-градусную шкалу тэрмометра.
[2] Лацінскае найменне хрыбетніка.

## Послуг

Не пішу я для цэнзуры.
Абыдуся без халтуры.
Хай здароўе нацкультуры
пачувае свой уздым, —
каб хапала кубатуры
для густой літаратуры...
...За плячыма Херувім.

Кажа ён: — Пісаць не гожа
для чытацкага стрыножжа.
Словы божыя — як збожжа.
Хочаш людзям паслужыць?

— Я магу парваць апратку
і чуллівым — на аглядку —
фібры новыя ўлажыць...

Мовіць Херувім пустэльны:
— Увайдзі ты ў Паралельны
свет натхнёны, акварэльны,
прычашчальны і малельны, —
творчы послуг скарыстаць.
Паўтары свае там вершы.
Выберы, які з іх лепшы, —
каб ты змог, ужо ў завершы,
на маёй нябеснай вежы
хоць бы рысачкаю стаць.

*31.07.2008*

## Шматкроп'і, пропускі, прыпынкі...

Я расінкай абатруся —
і чароўна паўтаруся:
тут, на лузе Беларусі
стану светлым серабром.

Не з Міндоўгам на хрышчэнні
і не ў царскім аблачэнні, —
буду ў полацкім зырчэнні
ажыўляць крывіцкі гром.

Каб стаяць у насцярозе
на ўкрыжованай дарозе –
і прыклікаць перамозе
абуджальны крыгалом.

Мы не станем у аглоблі.
Беларусь паўстала з кроплі.
Мы з яе вякоў шматкроп'і
як расіначкі збяром.

І без пропускаў у тэксце,
без прыпынкаў будзем несці
Беларусі Дабравесце.

О, напоўніцца нарэшце
да самога Перакрэсця
не Казённы, не Заезны
і ад кратаў не жалезны –
родны, з маціцамі, ДОМ.

*17.04.2006*

## Мы ў сваім – не чужыя!

***(насуперак класіку)***

Чыноўнік шэпча: – "Я в раю":
пакорныя – ва ўсёй акрузе...
    Не возьме волю ён маю
    без Беларусі.

Хай ачужытнікі гудуць
і спадчыну на продаж грузяць...
    Мяне ў іх "рай" не адвядуць
    ад Беларусі.

Я за краіну для жытла,
дзе сэрца – не прытворны грузік, –
    дзе з намі Беларусь была б
    і ў Беларусі.

Праўдзівы Бог на ўсё хлам'ё
узложыць свой праклён у скрусе.
　　Яму далучыцца й маё
　　Служэнне Продку, Праўдзе, Музе...

Зноў будзе ваяра кап'ё
　　пры Беларусі.

*01.08.2011*

## Прамова кандыдата на Дзеда Мароза

Тое, што цешыла,
　　гушкала, зыбала, –
снегам засыпана.
Межы, вузлы
　　і зацёсы-адмеціны
глуха замецены.
Ды не бядуйце,
　　што я завіхураны,
укубатураны
і закудлачаны
　　снежнымі турмамі.
Буду я фурманам
гэтай зімы
　　і каляднага ходара.
Буду я доктарам
кожнаму следу,
　　і следству, і допыту,
тупату, клопату...
Чуйце параду,
　　зычэнні дарожныя:
– Вы не парожнія!
Вы не замецены!
Будзеце макаўкай
　　з белай адмецінай
воляю цешыцца,
　　гушкацца-зыбацца.

Станеце дыбарам,
мудрыя выбарам, —
вам не асыпацца
ў полі задыбаным!

*09.12.2005*

## Веру сню

Верасню
веру сню...
І для даверу
крыж ускладаю
не на паперу,
а каб аблічча маё і плечы
былі на вечы,
на малітоўнай сустрэчы
з паплечнікамі і бліжнім:
перад ім — Усявышнім —
айчыннік, не лішнім,
лістазвонным сябе пачуваю.
І — ажываю я ў кстах і вернасці,
каб і ў верасні
не паддаваўся
прайдзісвету-гальню.
У берасцянцы-душы
на марознай імжы
цнатліваму верасню
веру сню:
абараню
вышыню, гушчыню
прыдзвінскай бярозы,
асланю ад пагрозы
яе летуценні-крозы,
І Бацькаўшчыны дабрыню
абараню.

*13.09.2009*

## Дыяганаль нацыі

Калі ж спаткаемся вачыма, —
каб сэрцы зверыць нам і мыслі?
Вунь колькі крэўных перагрызлі...
Быць у разладзе — немагчыма:
над вірам небыцця
завіслі.
Калі ж мы возьмемся ўсім родам,
каб нам ад Віцебска да Брэста
стаць ланцужкамі дабравеста,
а не вярыгамі нязгоды?
Хай гляне Беларусь
нявестай!
Калі ж вязьмом дзяржавы будзем?
Так мала трэба: парукацца, —
каб ад сябе не адракацца
і сябра не тапіць у брудзе...
Чакае беларусаў праца:
па жменьцы ў нацыю
сабрацца.

*2006*

## У храме Бацькаўшчыны

*1.*
— Ну што табе патрэбна, Божы служка?
Ты веры раб ці разбурэння клін?
— Я сам не свой. Мой Век мяне не гушкаў.
Любы рэжым з жывога цела стружку
здзіраў. Я перад сілай быў адзін.
І каб не тузаўся — ухмелля кружку
прымаў я, і з падмазкай шчымнай блін.

*2.*
— Ну што табе патрэбна, недалуга?
Для ўсіх спрыяльны, для сябе — жаднец.

Ты недзяржавец. Жыць гатоў пад пугай,
пад безназоўнай паміраць харугвай...
Ці ж адчуваеш, што прыйшоў канец?
Наперадзе — абезлюдзела-глуха.
Паўкрок — і згубіш існасці вянец.

*3.*
— Ну што табе патрэбна, апраметны?
Якім яшчэ Чарнобылем падбіць, —
каб ты завыў, успомніў, чым адметны,
чым грэшны... І няхай твой лоб не медны,
але пачні у дол паклоны біць:
і мацярык табе падкажа, бедны,
як Бацькаўшчыну і сябе у ёй любіць.

*4.*
— Ну што табе патрэбна, чалавеча,
вось тут — сярод прыроды, дзе ты свой?
— І ноч. І раніца. І дзень. І вечар.
Прастора. Свежасць. І галінак веча.
Таемны вір. Снег — кужалю сувой...
І каб не гасла узмаленне свечак, —
ну хоць які, а дах над галавой.

*5.*
— А дзе ж твой Дом. Зямля належыць Богу.
Беларусінам вызначаны Круг.
І толькі дзеі, — душаў ройны рух —
дадуць краіне межы і эпоху.
Пакуль што Беларусь — вось: белы луг,
які аточвае сабой дарогу
праз цішыню ці ўсплёскі завірух.

*6.*
— Хай будзе Бог у помач, падарожны!
Хадой употнай сагравай капеж.
Сабой напоўні далягляд разложны,
сабою назаві прастор заможны, —
а не куток жабрачы, дзе жывеш.
І снежны шлях пяройдзе ў шлях мурожны,
дзе разам з жаўруком гняздо саўеш.

*7.*

— Змагу, Айчына, вымкнуць з атачэння,
рушэнне павярнуць на перaлом.
З калымскім развітаўся я кайлом.
З манкуртаўскага памарачэнне
ачомаюся, ўзвышуся над злом
і вымалю у Бога асвячэнне
на Храм прыроды — Бацькаўшчыны дом.

*2000*

## Не слацца лістам

Пускаю словы я на вецер?
Нібы парваныя manісты,
яны знікалі там, дзе смецце...
О, урадоўцы і міністры,
а ваша сэрца адзавецца?
Даўно з настроем прамяністым
маё работніцкае месца:
працую
нацыяналістам.
Не спадзяюся на заробкі.
Таму маё пяро як дыля:
дзяўбе хрушчоўскія каробкі,
дзе словы смелыя застылі.
Схаваю ў барадзе прынаду,
прайдуся баявым дазорам, —
кусну скулу таму прымату,
якому родненькае — сорам.
А ўесца ў вісуса мой вірус —
паменее настрою злога.
Гібей, егіпецкі папірус,
а нам жывое трэба слова, —
каб размнажалася прысяга
па ўсім насельніцтве скалістым.
Смялейшы лепятне з прасцягу:
— Працую
нацыяналістам!

*16.03.2005*

## Паднебная пошта

Сівее мара-кроза.
Жыцця прыцісне проза —
і вылецяць са стоса
лісткі календара.
Пакуль яшчэ не позна, —
успомню Званара.
За пуцяводнай зоркай
дарогаю-рысоркай
мне б мысляю-вавёркай
дабегчы да ствала.
І ў крону па-над горкай
уткнуцца, дзе жыла
вясёлай чараўніцай
юнацкая зарніца:
была ў руках сініца, —
сплыла да жураўля.
І мне зімою сніцца
бяскрылая зямля.
Але не позна ў вецце
мне дзятлікам залезці
і прыпавесці-весці
адстукаць Званару:
“Не вер календару!
Я берагу ў канверце
паэзіі-нявесце
юнацкую зару”.

*05.02.2005*

## Нерат вечара

Дзень гаваркі замоўк, —
        пераключаю
на вечарок
        маўклівага адчаю.

Святлівая каханка, выручай:
мяне да сваёй ласкі падключай.

Адчуеш, што са мною быць надзейней,
і можна скінуць лішняе адзенне,
шчыльней прыцiснуць крыжык
    да грудзей:
абараніць пачуцці ад людзей.

Дзень — пустабрэх,
    а вечар — ціхі нерат.
Абдымкамі мы супакоім верад,
трымценне зорак
    і вачэй мігценне...

Каханню не заснуць на целе.
А маладзік між пацалункаў гляне, —
паверым: нарадзілі мы світанне.
Як весела нам ранкам кволым
стаяць пад промнем бессаромна-голым.

Прамень згубіў апратку? Прамаўчу.
Чалом гарачым сонейка ўключу.

*08.06.2011*

## Гама

Дні па клавішах прабегліся:
до,
  рэ,
    мі,
      фа,
        соль,
          ля,
            сі...
Гаму любасці па беразе
цэлы тыдзень я насіў.

Ноты і па мне пратупалі:
сі,
  ля,
    соль,
      фа,
        мі,
          рэ,
            до...
І я зняў з каханай туфлікі,
сукню колеру бардо.

Зноў прашу вятрыску голага
гаму любасці азваць, —
каб над клавішамі кволымі
до
  ля
    мі-
      лай
        цалаваць.

*2006, 31.10.2011*

## Суразмоўца

Няўмека прэцца апраўдацца,
незадаволены — бурчыць...
А мне б рабіну навучыць
са мной, самотненькім,
                вітацца.

Да восені яшчэ паспею
п а - н а ш а м у  дудукаць з ёй.
Рабіна шэпча: "Спею, спею,
бо не хачу я быць кіслёй".

Рабіна гронкамі махае.
І напаўняе мову сок:
"Цябе — люблю.
          Яна ж — кахае,
твая рабінка незямная.

Прыслухайся: чуцён звысок
Яе  м я д о в ы  галасок".

## Ураначкі

Планета — крона без камля —
губляе зоры-яблыкі.
Сама не ведае Зямля:
дзе зяблікі, дзе д’яблікі...

Не лезе сон пад парасон.
Дзе вы, дажджы на хутары?
Азяблы час. Маё крысо
твой кантынент ахутае.

Сатчэцца ноч. І нам здаля
засвішчуць берасцяначкі.
Я да калматага камля
прыму цябе — у наначкі.

*28.10.2005*

## Додніца

Ноч сукеначку здымае.
Лес — на дыбачкі.
Веташок для нас трымае
срэбра скібачкі.

Над зямлёю неба млее.
Зоркі моляцца.
У знямозе салавее
ноч-супольніца.

І тваімі
вецер вёрткі
шэпча вуснамі.
Знічка сцелецца вавёркай
над спакусамі.

Ціха стукнула ў акенца
наша додніца
і прылегла на сукенцы, —
нам запомніцца.

*2006*

## Пры возеры Гурон

*1. Зорцы знак свой падаю*

Гукнуў і знік пугач у завуголлі.
Ашэрхлае вуголле пры камлі...
Я зноў адзін. Тут промні нашай волі,
якія ў твань яшчэ не заплылі.
Не кратаецца вецце, не шкрабецца.
І хоць ты горла цемені здушы, —
адно камар піскляненькі ўзаўецца...
Акром навіслай зоркі — ні душы.
Мне да Венеры тут не прытуліцца.
Тут не Ай-Петры, тут не быў паэт,
якому Вільня назаўжды сталіца...
Пагоня — боскі суд, а не імпэт.
Заву світанак пад шацёр паднебны.
Я ў ачужэнстве на краі стаю.
Пакуль адзін.
Быць аднаму ганебна
і — зыркам — зорцы знак свой падаю.

*2. Пад сямізор'ем*

Спакойны ты, канадскі воз.
Хай заскрыпела б спіца!
Тут сам Чарпак — наперакос.
А мне б з Дзвіны напіцца.

Вісіць Мядзьведзіца — чужой.
А маладзік смяецца:
— Унучка з роднаю душой
расце. Ёсць спадкаемца!
Міланька-зорачка зырчыць,
агучвае айчыну,
дзе я не ўмею ні лічыць,
ні азываць жанчыну.

Таму мне Сямізор'е ўсмак:
вачыма не наесца...
...Вісіць — наперакос — Чарпак.
А Беларусь на месцы?

Свой Коўш ці выправіць яна?
Не ўставяць кол у спіцы?
...З маладзіковага чаўна
на вёслы б і — узвіцца!

*3. Малання-Міланька*

Паваражу на развітанне.
Нядзелька мне тасуе карты:
паказваюць, што ёсць Малання,
і гарадок яе — Кінкардэн.
А мне — дарога і самота...
Пачнецца ростань ад нядзелькі
і варажэйная работа:
пісаць не вершы — абнадзейкі.

Перад вачмі
                    у калыханні —
натхненне
                    ў вобліку Маланні.

*2011*

## Хварэю на суседзяў

*(жарт)*

Хачу любіць суседзяў!
Вакцыну дзе дастаць?
У Латвіі падгледзеў:
каштуе латаў пяць.
Не прадаюць: баяцца
Лівонію аддаць.

У Летуве ёсць помач.
Але пачуў, бядак:
— Калі б не Ермаловіч
і Молатаў-ядак, —
лек аддалі б за так.
Хай выручыць паляк!

Да Рэчы Паспалітай
я быў даўно прышыты.
З Варшавы зык: — Ідзі ты...
Браслаўе маеш? Квіты!
На санацыйных Крэсах
лячыся сам, агрэсар.

Чарнігаўшчына лашчыць.
лячыць гатовы Львоў:
— А як жа: ў вашай пашчы
наш паляшук гуляшчы...
Каб не валыніў нашча, —
прышчэпка ёсць: “Любоў!”

Абдымачкі Смаленска
падціснуў Петраград:
— Адзінакроўны брат!
Мы вылечым “до блеска”
Саюзны апарат.
Прышчэпку дасць Крамлёвец,
пахваліцца: — Мы — рацы!

...З дыфузіяй у свеце
нам добрасці стварацы.
Сяброў не выбіраць.

А хітрыкі іх згледзеў, —
адно магу: суседзяў
любоўю пакараць.

*2010 – 06.08.2011*

## Шатландскі парад у Канадзе

*Рытуальны “Марш для маладых”*
*быў запісаны мной у 1969 г.*
*на вяселлі ў Мёрскім раёне*

Святой традыцыі шанцуе!
У непагадзі чуцен зрух:
залева ўжо не круціць круг,
а вецер вокны не лупцуе.

Валынкі будуць надзімацца,
на кілты ў клетачку глядзець.
Тут памяць м о ж а маладзець,
бо горад х о ч а любавацца.

Шатландыі нязбытны гонар
канадцаў кліча за сабой.
Магутны марш вядзе на бой?
О не! Валынка — духу донар!

...З параднай музыкі мне тчэцца
вясельны марш — прыдзвінскі ўздых:
вяла ў застолле маладых
капэла — сэрцамі сагрэцца.

Вось так вяртае заграніца
мне гукі роднага жытла.
Няхай бы Беларусь змагла
з Канадай гудбай парадніцца:
гучаў бы сімвал-атрыбут
валынкай — там, дудою — тут.
Я б загудзеў: "За мной, Народзе!"
І як шатландзец пры пагодзе
прадзьмуў бы шлях — жыць у свабодзе.
І стаўся б цуд!

*2011*

## Балцкая Крывія

Дзвіна Балкрывію ўрасіла.
І я тлумачу латышу:
— Не палагодзіла душу
найменне "Белая Расія"[1].

Перaназваны незалежны
Зямлі акраец.
...Быў уежны
усімі нашымі суседзямі.

[1] "Белая Расія" — дакладны пераклад слова Baltkrievia, якім мянуецца ў Латвіі Беларусь. Такі ж змест у чэшскім Bielorusko, нямецкім Weissrussland і г. д.

І хоць былі мы не мядзьведзямі, —
ды аказаліся ў бярлозе
(чытай!) пры брацкай дапамозе.

І сёння чуецца перкусія
усесаюзнай той дыфузіі:
“Сестрёнка наша Белорусія!”

Карозіяй не ганаруся я...
Не дружба ў галаве — кантузія:
нібыта выцялі патэльняю —
“Вайсрусландам”
“Беларутэнію”.

*29.08.2011*

## На Готланд!

*А ўжо гоцкія красныя дзевы*
*на беразе сіняга мора запелі:*
*звонячы золатам рускім...*

“Слова пра паход Ігаравы”
Пераклад Рыгора Барадуліна

Прастор я мысляю прабег:
стаяць не дрэвы — выгары...
...Свой верш пастаўлю як даспех
з даспехам князя Ігара.

Пачатак “Слова...” і канец —
паміж славянскіх лісцікаў.
Чакаў яго і мыслівец,
той, з-пад Дзісны, з Панізьнікаў.

Ён мысліў. З ім і я жыву,
Рубону шчыра верую.
А летапісную траву
скубе мой конь. Адмераю

з ім шлях на Гоцкі бераг, дзе
званілі нашым золатам
і палачанкі. На вадзе
крывіцкія там золакі

чыталі "Слова...". Я ў царкве
гартаў старонкі вобмацкам...
...На Готланд ветразь мой плыве,
натхнёны вечным Полацкам.

*20.08.2011*

## Абрысы фразы

* * *

Пракаціліся слёзы
па Хрыстовым абліччы.
На Галгофе засуха.
Калючкі цярноўніка
смылеюць у кожным з нас.

* * *

Займаецца на зару.
Патаема ночы
ускалыхнула вадзіцу.
Сорам — азерца развіднеласці.

* * *

Над пералжытай разгубленасцю
зазыўна пазвоньвае
патанчэлае лісце пачуццяў.

* * *

Вытыркаецца комін
праз рэбры крокваў
асірацелай вёскі.
На глобусе Беларусі вые труба:
з безназоўнай безлюдзі
мяне азывае.

* * *

Навокал былога млына —
пятля пустэчы.
Шалупінне не прарастае.

* * *

У Маладзіка і Ветаха навідавоку
толькі скібачка
нацыянальнай тэрыторыі.
Поўню Беларусі
        аніхто
        аніколі
        не бачыў.

* * *

З белаватага яйка золаку
вылупілася залатое птушаня.
...І маё месца пад сонцам
пачыналася з Полацка.
Прадзяўбуся праз вечка веча —
вярнуць Усяслава з поруба
у гняздзечка Сафійкі.

* * *

Раніца набрыняла перазовамі.
Лёзныя словы ідуць папасвіцца.
Неласка́выя — бягуць на ловы.
Поўдзень — подыум роздуму:
што скажам на выпускным вечары
абязмоўленай адукацыі?

* * *

Інфарматар піша пра тое,
што пачуў і вычытаў.
Інтэрпрэтатар —
што вывудзіў між слоў і радкоў.

* * *

Будзіцелі ратавалі чэхаў міфам і ласкай.
Ян Нэруда звяртаўся да свайго народа:
        “Высмейваю заганы я твае.
        На большае любові не стае”.
Але не хапіла смеласці перакласці верш,
які пачынаўся такімі радкамі:
“Народзе мой, люблю цябе
і маю таму права ненавідзець...”

Мая генетычная памяркоўнасць —
унутраная цэнзура.

. . . . . . . . . . . . . . .

Заблукаў Майсей
між Дзвіною і Прыпяццю.

* * *

Летапіс цвердзіць
трывалую стойкасць даўнасці.
Зімапіс перапыняе
адважнае шэсце будучыні.

* * *

На покуці сутнасці — абразы́.
Мой раўналетак
на пе́лене-прыполе Божае Маці.
Пры наступных сустрэчах з існасцю
абра́зы — у пазалоце.

* * *

Чытач перагортвае старонкі.
Перачытвае кнігу час.
А Гаспадару Неба
толькі і застаецца
сабраць лістоту гадоў
пад вокладкай памяці.

* * *

Апошнія кроплі вячэрняга дожджыка
літаркамі свецяцца ў рэшаце неба.
Пачатковая школа восені
чакае маю настаўніцу
з незабытай вясны кахання.

* * *

На акрайчыку хлеба —
крохкія крошкі надзеі.
Страсаю нарасці
з скібачак меркаванняў.
Кожны лірычны Застольнік
думае пра запаветнае.
На абрусе Радзімы
Чарсцвее мой хлеб надзённы.

* * *

Сказаў — паўтарыўся.
Прамаўчаў — скарыўся.
Гарбату прыгатаваў —
сам сябе ратаваў.
У кіпеня навучыўся:
быць бурбалкай перастаў.

* * *

Народ
з вырвінамі і прамывінамі ў памяці
пераназываецца.
Усцешна: чужая лухта
з мацерыка змываецца.
Нацыя
і за мяне трымаецца.

* * *

Адэля з Устроні, Мікола з Гусава,
Гаўрыла з Полацка,
Яська-гаспадар з-пад Вільні,
Сымон Рэўка з-пад Барысава...
А былі яшчэ і пашпартныя беларусы.

* * *

Гук — мова істоты.
Гул — мова грамады.
Гік — пачатак нашэсця.
А з якой фразы пачынаецца
кансалідацыя электарату?

* * *

Днее. Просвірка сонца завісла
над свіронкамі нашых душаў.
Прычашчаюся пэўнасцю.
Свіран перастае свіргатаць.
Ганак абвіваецца промнямі.
Заходзяць у маю вітальню
блікі сваякоў, родзічаў, крэўных...
Для спагады споведзі —
Ойча нябесны.
Станься воля Твая!

* * *

Кулакі курганоў — пералапачаныя.
Апусцелыя жменькі продкаў
просяць міласціну.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
...а бязлітасных выправім жабраваць.

* * *

З гаваркога багацця Мёршчыны:
“Дурасьць служыць розуму за тачыла”,
“Не маніся, а Богу маліся”,
“У старога жарабка скура і на плоце гагоча”,
“З галавой не дагаварыўся — і да ног ня суньця”,
“Чалавек сабакі не баіцца, але зьвягі ня любіць”...
“Зьезьдзіў як цар пад Рыгу”[1].

* * *

Еду на пагасцінства.
У глыбокім лесе пры шашы
выкінуты з машыны кот.
Цяпер і па зорках не зможа
вярнуцца дадому.
Аўтаматызаваная цывілізацыя
не пранюхваецца.

* * *

Уяўляю дызайн аселасці:
вясёлая крона,
самотны камель,
тужлівыя карані.
А я не прышлы:
сам Пан у родзе.
Удоўж і ўшыркі
ў стагоддзях ходзім.
Уяўляю дызайн адвечнасці:
крона — у рыштаваннях,
камель — у друзе,

[1] Гэтак казаў мой бацька пра неабачлівага суседа, не ведаючы ні пра Аляксея “Тишайшего”, ні пра адступленне яго войска па старажытнай Дзісеншчыне ў 1656 годзе.

карані —
у Вялікім Княстве Любові.
Над назвай — насып.
Жвір журбы растрывожу!

* * *

драЭвы
і ўсохлыя аднолькава
Жывыя разгалістыя
у
з
і
м
к
у

* * *

Апостраф убрыквае слова.
Двукоссе яго зашорвае.
А мяккі знак увекавечвае
маё маўленне.
Нічога не кажу пра “ў” —
нескладовае для суседзяў:
гжэчным капялюшыкам
вітае іх па-шляхоцку.

* * *

Вакол майго дома
спадзеўнымі зоркамі-заклепкамі
я змацоўваю ў суткі-содні
кожныя дзень і ноч, —
каб іржавыя знічкі
не ўтыкнуліся
у прыдуманую імі
дамавіну Бацькаўшчыны.

*2009–2011*

# 3

О, Беларусь,
твой зоўны лёс – дарога.
Ты сто разоў пытаеш на вяку:
“Ці многа нас?
Ці многа нас?
Ці многа
знаходзіцца на кожным бальшаку?”
Ішлі мы ад Скарыны – да Купалы.
Ідзём мы ад Купалы –
ў новы дзень.
А ты ўсё пазіраеш:
“Ці не мала?”
Ўздыхаеш:
“Хоць бы так, як у людзей...”

## Нас многа?

Я спадзеўна разважаю
пад зоркавым намоленым жытлом.
Святлінамі планіду акружаю.
Нас — многа!
Тут я небу дагаджаю
і памнажаю зрок яго святлом.

У забыцці — разгуба і трывога,
зіркатыя зарніцы ў слепаце...
А тут,
дзе Беларусі з намі многа, —
павернута жыццё ўсутыч да Бога
і не відаць канца яму нідзе.

*30.07.2011*

## Не позна...

У волатаў не роўнядзь — круцізна:
узнёсла ў яркай творчасці і слёзна...
Іх шанаваць, як водзіцца здаўна,
яшчэ не позна.

А служба — у будзіцеляў — адна:
дух ратаваць, калі і жыць пагрозна.
Хай багацее шчырасці казна,
пакуль не позна.

У творцаў — ад малебства — сівізна.
Каму ад іхняй велічы зайздросна?
І наша пашанота — як вясна!
Яшчэ не позна

прызнацца: ёсць і горкая віна, —
таіў любоў...
...Каб не было так млосна,
пагавару я з вамі давідна:

падзякаваць
ніколечкі
не позна.

## Дзесь пад Вільняю…

*“З дому не рухаюся… Так што*
*калі Вам хочацца мяне адведаць,*
*не адкладайце: чым хутчэй, тым лепш.*
*Зразумела, вясной у нас прыгажэй і дарога*
*больш прыемная. Але мушу вытлумачыць,*
*як да мяне дабрацца, бо жыву даслоўна ў лесе…”*

З ліста Людвікі Антонаўны Войцік

А дарога — дзе золь, дзе верас —
у пажухлым зімой лісці…
Маладзенькая Зоська Верас,
як нялёгка да Вас дайсці.
І не бор той густы пад Вільняй,
не падростачкі-саснякі, —
замінаюць гадоў узвівы,
нашы звілістыя вякі…
І самім Вам пад дзевяноста.
Столькі жыцінак у вязьму!
Ды з-за лесу, з-за бору —
постаць:
— Добрых летаў яшчэ вазьму!
Баравая, уся лясная,
уся памятлівая наўздзіў…
Не пытаюся я, бо знаю:
колькі
верас
людзей вадзіў…

Паспяшаюся — і паверу:
з Даўгалеццем расце Любоў.
…Дзесь пад Вільняю Зоська Верас
прыручае нам галубоў.

*1981*

## Музыка

*Віктару Войціку*

Праз тысячу гадоў
данеслі трубы:
гарчэў глыток...
Ды не мялеў выток...
Не зветрыцца
імя народа “Любы”
на той зямлі,
дзе наш цвярдзее крок.

*1981*

## У прылівах і штормах

*“Змагарным дарогам”*
*Кастуся Акулы*

Беларусь у рэках патанае.
Мрояй над азёрамі лунае.
А да мора выхаду няма.
        А чыя ж уздыблена карма?

Мацярык наш акіяны мае.
Мовай кантыненты амывае.
Нацыя пастаўлена старчма.
        Унутры яе турма, карчма,

шэрыя падмурачкі бастылій...
Толькі ж нашы кратары не стылі, —
прарывалі панцырнае зло.
        Вывяржэнне мужнасці гуло!

З выплескаў на павяртанне стратаў
у прылівах — СЛОВА эмігрантаў:
кожнае як ветразя крыло.
        Беларусь — планеты жарала.

*16.11.2005*

## “І к шчасцю масціці гасцінец…” *(Янка Купала. 1916 г.)*

*“Тут у 1916 г. служыў старшым рабочым*
*дарожна-будаўнічага атрада*
*Варшаўскай акругі шляхоў зносін*
*беларускі паэт Янка Купала”*
З мемарыяльнай дошкі на ст. Баравуха

Лесарубы, шпалацёсы
шлях масцілі нам са скрухай…
Гадаваў Купала крозы
пад жывічнай Баравухай.
Ладзіў з глухасці дарогу,
вызнаваў шляхі на сёння…
І складаў радкі пра змогу,
словы песціў на насёны.
Тут пабраталіся шпалы…
Можна ў будучыню мчацца!
Хоча рэха дакрычацца
ў Баравусе да Купалы –
праз усе лесапавалы
і прагалы, і прагоны, –
каб напоўніць шчасцем званым
апусцелыя вагоны.
Стаў Купала Баравусе
лесарубам будаўнічым…
…На гасцінцы Беларусі
сёння зноў яго прыклічам!

*1996*

## Полацкае начаванне

*Навуму Гальпяровічу*

Расонскія вітанні
у шляхціча Завальні
здарожылі мой дзень.
Пасля ўрачыстай працы
да Полацка дабрацца б!

...Прытомлены, як сцень,
гляджу лістком апалым:
на вуліцы Купалы
стаіўся вінзавод...
Сафійка на рамонце...
Пралазіны у плоце...
А год ідзе на звод.
Прытулак звечарэлы.
Аўтобусік скарэлы
у Віцебску засне.
Я ў полацкім гатэлі —
нарэшце! У фатэлі
сяджу, бы ў баразне.
Што за вакном — не бачна.
З вячэраю нясмачнай
не думаць пра Афон...
Ды ёсць тут мой суаўтар:
сам Гальпяровіч заўтра
уключыць мікрафон!
Пытаннямі харчуе
ён полацкі амбон:
— З кім Ісціна начуе?
— Хто Еўфрасінню чуе?
— Дзе вечавы наш звон?
Вунь у Навума сведкі:
Асветнік без падсветкі,
вакзал з Правадыром...
Праз радыё прарочыць,
што ёсць і ў ночы вочы
з агнём (не толькі днём).
Як пілігрым ахвочы
праз вечны горад крочыць...
А з ім і мне не збочыць
з Каўчэга — ў родны дом.

*1998*

## Пад назіркам класікаў

*(Прыгадваючы сустрэчы з Іванам Мележам)*

Насмелюся і запытаюся:
– Пад кім стаю? Каго трымаюся?
Я земскім пісарам наймаюся –
І гэтым не смяшу людзей?
Усцешу родненькіх дзяцей?

А слова горкае глытаючы
Хачу даведацца: каго
Перш-наперш бачу, верш чытаючы?
Сябе самога, ці яго –
Мільёналікага і сціплага,
Каму адно імя – Народ?
Ці чую, як гадзіннік цікае,
Ў якога
Тысячалетні ход?

Калі ж і на мяне з папрокамі
Глядзіць ля вёсачкі дзіця, –
Адказваю, якімі крокамі
Вяду я лінію жыцця:
– Ёсць у жыцці святло гасподняе –
Людзей мальбою закрануць,
Не прыгараднае,
Не міжгародняе, –
Народу роднае вярнуць
І ўсё, што зрынута, што знішчана
Беспамяцтва густым гальнём,
Што пад скарэжанымі днішчамі
Асушана ўчарашнім днём...

Не могуць творцы быць адлучаны
Ад родных нетраў, каранёў.
Народ вяслуе. Мы – уключыны.
У плынь жыцця праменні ўключаны –
Ад Вязынкі, ад Куранёў[1].

*1996, 12.08.2012*

[1] Курані – назва вёскі ў “Палескай хронікі” Івана Мележа.

## Вячэрня ў Зэльве

Зоркі ў небе сцерагчы
жнівень даручае.
Знічка-Геніюш ключы
ў неба пазычае, —
аддала да каліва
промнікі на паліва:
у ГУЛАГу вершы грэлі
нескароныя арэлі.
Зоркі ў небе — як сяйво
Бацькаўшчыны вечнай.
Знічка-Геніюш брыво
узняла і сведчыць:
— Пранясу вячэрняю
я любоў дачэрнюю, —
каб з малітваю дабрэлі
душы — Богавы арэлі.
Зоркі ў Зэльве й праз гады
нашу веру ўсплодзяць.
Ноч засне — дзень малады
з намі будзе ў згодзе.
Будзе жыць вялебная
нацыя паднебная:
на вячэрняй акварэлі —
знічкі-Геніюш арэлі.

*11.06.2010*

## Пад маціцай Ведаў

*Прысвячэнне 60-гадоваму*
*Віталю Скалабану*

Наш дзядзька ў Вільні, Рызе, Львове
Слугуе памяці-ахове,
Каб шлях не заступіў Харон,—
Купалы не пераплавіў трон,
Не адабраў Максімаў звон...

Гарбар, грабар, дудар, званар...
Найперш – за Праўду ён змагар,--
Бо дзядзька Скалабан Віталь
Глыбіні ведае і даль,
Мацерыка свайго бязмежжа.

З-пад рук яго падмуркі вежаў
Растуць да маціцы той свежай
Ў Хароме Ведаў, дзе сам пан
Сядзіць наш дзядзька Скалабан.

А водбліск, знойдзены ў архіве,
Дакажа: быць яму ў актыве
Нацыянальнага свячэння, –
У неспатоленым парыве
І ў новы год ад нараджэння,
І ў новы юбілей натхнення!

*Жнівень 2007*

## Пачула Неба...

*Вользе Іпатавай*

Вісіць над намі
вечны Млечны Шлях.
Альгердаў Шлях
нас калаціў і песціў.
Шлях з Грэкаў у Варагі – у вірах.
А ён жа азалочваў і нявесціў.

Шлях Віленскі
цар-бацюшка праспаў,
пасля баранаваў яго каронай.
Варшаўскі – знік.
І Полацкі прапаў...
Чарнобыльскі гудзіць пад забаронай.

Адвечны Шлях крыжовы і цярністы.
Шлях Адраджэння
высвецяць храністы.

...Знямогся ў тупіку
паход злачынны.

Пачула Неба,
зноў дае нам Сцяг:
– Ёсць Божы Шлях, –
Адзіны для Айчыны.

*09.09.2011*

## Меціна

*Гісторык Баляслаў Брэжга ў 1925 г.*
*вывез з Віцебска ў Латвію –*
*і тым самым захаваў –*
*многія пазнакі беларускай старасветчыны.*

Дзе сімвалы душэўнай сілы?
Дзе нашы фібры?
Калісьці ў Брэжгі папрасіў я
адзін экслібрыс.

А ён як вежа
у Парыжы,
ці крыж ва ўзвіжжы...
...Цяпер у тлуме не згарыш ты,
сяйво Нясвіжа.
Трапечуцца
у звера-птаха
падкрылкі, грыва...
З вякоў пад кнігазборным дахам
і мне спажыва.

Палац як сонца маладое
сваціў акрузе.
...А ў друзе – экскурс у былое
экс-Беларусі.
Экспатрыяцыя вадзіла
душу за межы...

Нясвіж не толькі Радзівілам,
і мне належыць, –
як песня, што нясу ад мамы
дарогай лёзнай...
Пад радзівілаўскаю брамай
лунае лёс мой.

## Вершнік

*Леаніду Маракову*

У Маракова ёсць ахова –
яго нямігаўскі паверх.
У Маракова ёсць падкова:
дзе дужкі звернутыя ўверх.
І там не шчасце, а слязіны
ахвяраў сталінскіх акоў...
Іх тысячы, а ён адзіны
ахоўнік душаў – Маракоў.
Імёны катаў акаянных
на свет выводзіць Леанід.
Боль Беларусі – акіянны,
але пад намі ёсць граніт.
І змог ён, змог сарваць супоні
са схронаў:
        з намі праўды ніць!
...Яго напорыстай пагоні
цяпер нікому не спыніць.

*08.09.2007*

## Апора

*Эдуарду Самуйлёнку*

Вунь яны, пры зацемку, сядзяць
у сваім і не ў сваім літдоме.
Зеўры Бэндэ, пільныя, глядзяць.
А Купала, стоены ва ўтоме,
то прыгубіць чарку, нібы цьму,
то ўздрыгне плячыма:
                        "А ці варта?"
Ён зірне самотна на Кузьму,
ён кране чупрыну Эдуарда...

Тры сябры. У кожнага свой млён,
свой унёсак і сваё вытканне.
Ды адзін пад маціцай заклён:
бэндаўскае злое віжаванне.

Хто ж з сяброў Купалы змог суняць
зацяжныя хіжыя пагрозы?
Самуйлёнак!
Янку мог абняць
і ў знямозе песціць мары-крозы.

Быў ратоўна-верным сябруком.
Адышоў, але не расстраляны...
...Не павее збытным халадком
на яго прыдзвінскія паляны.
Даражэй за пульхныя тамы
Слова і нязрада ў час навалы.
Вунь ідзе, а сведкамі і мы,
рослы друг высокага Купалы.

## Ад рума да порта

*Вячаславу Рагойшу — даследніку*
*літаратурных сувязяў*

Шчэпкай з юрмальскай карагі
чэша Вячка бараду.
Шляхам з Грэкаў у Варагі
у заліў ён вёў хаду —
паспытаць латышскай брагі,
кінуць якар у ваду.
Бачыць: тут акно ў Еўропу
пратаранена даўно.
Прыпазніўся... Збіўся з тропу:
літкантакты — бульк! — на дно,
бо варагаў не відно
і крыжацкіх небаракаў,
ды і полацкіх спадніц.

Мірдзе Абале[1] пракракаў —
і вярнуўся ў родны Ракаў
да бацькоўскіх аканіц.
Ведама і недарэку:
Ракаў — міжнародны порт!

[1] Мірдза Абала — навуковец, перакладчык; узначальвала Латвійскае аддзяленне Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Гэта тут “вяселле веку”
многіх падняло на борт.
Львоў з Таццянаю Кабржыцкай
пераслаў каўчэг-баркас,
ад Свянціцкага абраз...
...Варта Ракаву абжыцца
і — увойдзе ў Еўразвяз.

*1999, 26.03.2002*

## На Васілле

*Васілю Шаранговічу*

*1.*

Іней жалі, снег касілі,
ледзяшы ў касцёр насілі
    на Васілле.
А завеі галасілі...
Ды былі мы ўсе — у сіле
    на Васілле.

2.

Вось ізноў ідзе Васілле
і Васіль, якога ксцілі
    нам нябёсы, —
для Дзяржавы, для Купалы
з яго славай непрапалай
    і не босай...

*3.*

Каб жа Вас не “тармазілі”,
на руках сябры насілі,
толькі “мядзелкай” расілі...
...І пад коўдраю мясілі
да стагоддзя Васілёчка;
ў Качаны ды без кіёчка
    Вас прасілі
    на Васілле,
    як сыночка.

*23.03.2004*

## Маладзён!

*Міколу Купаву, якога “падмаладзіў”*
*Васіль Ліцьвінка ў сваім “Календары...”*

Ліцьвінка захацеў падмаладзіць
Купаву – каб да дзяўчат наблізіць?
Каб лішні год Міколу малаціць
снапочкі на Крапіўне, на Нямізе?

Бадай не... Хлопца кволасць не бярэ,
бо спраўна служыць апантанай музе:
за Вітаўтам прыглядвае ў напрузе,
да Кастуся прабіўся праз карэ...

Падпёр Гальшаны незалежнік-вольнік.
На Нашай Ніве сейбіт ён і жнец, –
з ім Багушэвіч, Цётка, Каганец...
З Купалам і Купава – Янка Здольнік.

На Воршу, Слуцак з любасцю глядзіць.
А ў сэрцы ж у Міколы Вільня б’ецца!
(Да Вострай Брамы ходзяць аднаверцы.)

Між ваяроў вязьмо не разамкнецца:
Як толькі Герба, Сцяга дакранецца, –
Купава сам бярэцца маладзіць
усіх сваіх нястомных спадкаемцаў.

*24.11.2006*

## Каляны каляндар

*Памяці Васіля Ліцьвінкі,*
*аўтара “Календара свят і абрадаў беларусаў”*

Прыбраў я серп, дажынкі зладзіў...
Прыціхлі жніўня Капыты.
Цяпер быць верасню пры ўладзе.
Ноч Гарабінава! А ты
Не адслані мяне ад Спаса,
Пакінь хоць каліва цяпла, –
Каб у гумне раслі прыпасы,
Кішэнька не пустой была!

На Засідкі, на Раўнадзенства
(а там Пакровы, Млынары)
Я не жыву без чарадзейства:
Са мной прыроды Буквары.
Рабінавая ноч! Ты скруху
На мой папар не перанось.
Узвіжанне дабавіць руху!
Я ж сам – нібы зямная вось:
Вакол мяне Дзяды і Праллі,
Вунь Запусты, Сонцаварот...
Пакуль Барбары дзень не скралі, --
Люляю промні ля варот.

Ноч з арабінамі, не зырся
На Лета бабіна. Згадай
Жыцця параду: "Хоць распніся,
А капыты не адкідай!"

*11.08.2007, 13.06.2012*

## След Альгерда

*Віцебскаму князю Альгерду-Аляксандру,*
*які разбіў татараў на Снівадзе (1362)*

Я твой, Альгерд,
Шукаю след
З-пад Віцебскага верасня.
Чутно, герой.
Глухой імглой:
Звіняць даспехі-ветразі –
Як напамін:
Ліцьвін, русін
Ї дужаліся, й біліся!
Натхні і нас
У востры час,
Каб зноў сцягі узвіліся.

На Снівадзе –
Ардзе, бядзе –
Падпругі не рассечаны.

Ў сядло, Альгерд!
А мы — услед.
Каб не былі знявечаны
Пасад, абсяг...

Не згасне Сцяг,
Мячом тваім увенчаны.

*2007*

## Даўні ўспамін

***(з "абсыхання" кнігі "Батлейка" Валянціна Лукшы на Лысай гары)***

Ля "Батлейкі" седзімо.
Неба над палаткаю.
Хто закусваў эскімо,
Хто грашыў аблаткаю.
А катрыншчык з-пад Міра —
Як артыст экраніцца...
І падземная кара
З мазгавою раіцца:
"Дзе мы: ў джунглях, на Янцзы,
На Галгофе, ў споведзі?
Фараон глядзіць з лазы...
Вунь вярблюд на повязі..."
Лукша кнігу разгарнуў —
Нібы Полацак дыхнуў:
— Хочацца батлеіцца?
Хай штаны не клеяцца!
Ногі самі пабягуць
Да сяброў. Яны жывуць
Ля Хеопса, у Тунісе,
У зусім няблізкай Рызе...
Дзе б ні быў на брыганціне, —
Полацак мой порт радзінны;
Як юнацтва, ён адзіны.
Стольны, кніжны! Палюбіце!
Дам за гэта вам на ўдачу
Кожнаму па пірамідзе
І па сфінксе — у прыдачу!

*2007*

## А мы – ашчадныя

***Філасофскія азначэнні
гісторыка Захара Шыбекі***

Між прывідаў вякоўных, зданяў
Адкрыў цераз пралом скразны
Эфект адкладзеных жаданняў,
Афект спустошанай казны.
Гудзілі тлумныя пракрокі
Тутэйшым зыркую Вясну...
І толькі мыкалі кароўкі,
Упрэжаныя ў баразну.
Кіпела магма Адраджэння,
Але ніхто не развязаў
Вузлы Везувія-Рушэння...
Казыча позняя сляза.
І сёння ў нас (як непатрэб'е)
Апосталы без пасталоў:
Дэфект прыроджанага зрэб'я
Ніхто з іх
Не перамалоў.
Суб'ектам ці аб'ектам сталі?
Ды мацаем не лоб, а пуп...
Канспектам быць не перасталі, –
Пражэктам Беларусь ля губ.

*2008, 12.06.2012*

## "На свабодзе прападу,
## А ў няволю не пайду!"

*Альгерду-Якубу Абуховічу –
графу Бандынэлі
з шляхотнага роду
герба "Ключ раздвоены"*

Песні Графа адзвінелі.
Рым усцешыць не змаглі.
І застаўся Бандынэлі
на сваёй святой зямлі.

Звонкі касінера голас
не Парыж на вежы ўзняў, —
ключ яго (і жытні колас)
Восіп Дыла пераняў.

Хай Жэневы жаль журкоча,
што цыдулкі нехта знёс...
Ваўкалак збярогся! Хоча
нам напомніць з-пад калёс:
“Граф на пана раду знойдзе,
льва-манарха абміне...”

Граф адчуе, ХТО ў народзе
пры нагодзе ўспамяне

слуцкае гадоўлі сына
і яго жаданкі ўсе, —
адужэла каб Айчына,
пашляхотнела ў красе.

Жнівень прычакае ў Слуцку
Абуховіча радню:
Мы прытулімся па-людску,
Герб узяўшы ў пяцярню.

*2010, чэрвень 2012*

## На крылы анёлу

*“...не адклікаў Ён на нябёсы
майго анёла...”*
Данута Бічэль

А пройдзе мінута,
маркоты хвіліна, —
і будзе Данута
як тая маліна —
наводдаль Масцішчаў
у плойме анёлаў,
дзе вецер не свішча,
не чутна шумёлаў,
дзе стаў Загасцінец
мурожнаю поўняй,
дзе пахне націнне
пад роднай шпакоўняй...

Мінецца мінута
і вострасці — долу...
Любоў як пакуту
з прыполу, з прастолу
узносіць Данута
на крылы
анёлу.

*10.02.2009*

## Разам!

*Спадару Юрасю Хадыку*

“Мы паколатыя...” Дзе стрыжань,
Каб сабраць з гарадоў і сёл
Недаверкаў усіх да Крыжа?
Беларусь аблачыны ліжа,
Не завязаная на вузёл.
“Мы паколатыя...” : ў разводы
Светаносны не ўпрэцца кліч.
Там, дзе выпырскі, уразброды, —
Кожны Статуяй Несвабоды
Пад сябе падмінае Зьніч.
Мы — разбэрсаны? Хто ж спалучыць
З кроснаў вынятыя ніты?
Беларусь — мацярык трывушчы.
Быць у еднасці люд навучаць
Дабравесныя Я і Ты.
... Ці ж не зернейкі пры сяўбе
Павучалі: “Пачні з сябе!”

*2010, 2012*

## – Жывом!

*Масквічу Аляксею Каўку,*
*народжанаму на Чэрвеншчыне*

Жыў-быў у Празе Кафка.
А ёсць і рэчка Каўка.
На Чэрвеншчыне — лаўка,
з якой падскочыў Каўка
і ўсеўся на каня...

Пагаварыць — няўпраўка:
у Менску — на паўдня...
Знайшлася і папраўка:
трымае даланя
Скарынаву застаўку,
Ластоўскага прыстаўку,
Улашчыка прыбаўку...

— Жывом! — гукала каўка,
а з галкай арляня.

Так, будам жыць, Прафесар,
і вымкнемся з гурмы.
Савецкія завесы
і крызісныя стрэсы
карчуем сёння мы.

А Вам — шукаць надрэзы,
а Вам — стварыць псальмы
для Беларускай месы...
— Sto lat! — Мой зык для тэзы:
Ігуменшчыны крэсы —
Крылацкія Халмы!

*16.10.2009*

## Сонцабег

*Айцу Аляксандру Надсану*

Мацерыкі прымаюць Сонцабег,
каб мы ўспамінамі маглі сагрэцца,
каб незабытнасць гадавалі сэрцы
і поўніліся словамі суцех.
Не пойдуць у разбег мацерыкі.
Прылашчыць Сонцабег свае сумежжы —
і выявіцца, што мы ўсе належым
да аднае Любові. На вякі!
Мы самі — сонцабежныя кругі —
разлеглыя злучаем берагі.

*2010*

## "Жыву надзеяй..."

*(З допісу Янкі Запрудніка)*

Жыву надзеяй між пабежных спраў.
У бегатні гадоў няма разгрузкі.
І ўсё ж наш Бог мяне не пакараў –
даў мацярык: і тут ён – беларускі.

Нью-Ёрк і родны Мір – адзін Алімп.
Прытулак
для пякучых спраў заўзятых
на дні мае
усклаў змагарны німб.

А дні народзінаў
не толькі святы:
і дзеі – Слова вымавіць за тых,
азмрочаных бязроднаю маною.
Згадаць людзей папраўдзе залатых,
ды сцебануць глухую параною.

Жыву надзеяй. Для падзеі жыць –
паверыць: і каханне маладзее!
. . . . . . . . . . . . . . . .
І як такім жыццём не даражыць,
дзе Беларусь – штодзённая надзея.

*2011*

## Конь Незацугляны

*Генадзю Бураўкіну*

Сёння Грэку і Варагу
шлях да нас каляны.
Толькі ж Конь Незацугляны
аббягае ўсе паляны
і не мае страху.

Ён Дзвіне не валацуга:
быў жа і на Гербе!
Гэта нелюдзь ходзіць цугам,
хваліцца: у нас папруга...

А Ваш Конь імчыцца лугам,
як паверне вострым вухам, —
зноў мы ўсе — у свербе,
нават воін пешы.

Нацыю не зацугляць,
дзе падковамі звіняць
Бураўкіна
вершы!

*07.10.2011*

## Сабраў грамаду!

*Івану Бурсаву — аўтару кнігі “Шаги”*
*(Анталогія беларускай паэзіі. Артыкулы і пераклады*
*вершаў беларускіх паэтаў на рускую мову.*
*Мінск: Выдавец Віктар Хурсік, 2011)*

Чачот, Баршчэўскі... Колас поруч
тварцоў з Устроні і Парнаса.
Буйлянка з Цёткаю — прыўкраса,
каб Геніюш не чула горыч.
Вядзе Граф Бандынэлі рэйд
да нашаніўцаў, узвышэнцаў.
Са шляхтай гордай, дзе Альгерд,
Алесь Смаленец між прышэльцаў.
Тут сам Купала гуслярам
дае параду: мець свой Храм, —
каб — замест пустак і балотаў —
народ Дзяржаваю валодаў.
“Час не змяніў яго аблічча...”
Купалы свеціцца пагляд!
Тут Беларусь з ягоным клічам
жыве, каб шчыранька маліцца,

наноў Сусвету аб’явіцца –
Пачэсны ажывіць Пасад.
. . . . . . . . . . . . . . .
Завёў нас Бурсаў ў дзіўны сад:
з Масквы – ярчэйшы далягляд!

*Лістапад 2011*

## На радзіме Яна Скрыгана

*Спадарыні Галіне Скрыган*

Не спыняўся ураган.
Крэсліў ён і кнігі-скібы.
Скрыгатаў Іван Скрыган:
– Дзе сябры? А дзе іх німбы?

Быў гулажны мацярык
зрынуты у рвы-траншэі:
рвалі там ахвяраў крык, –
каб і душы не дрыжэлі.

Спавядаўся Ян Скрыган:
– Прабачаю вас я, шэльмы...
Мы ж, калі сышоў тыран,
разам з праўдай даражэлі...
. . . . . . . . . . . . .
Сёння ля загойных ран
зноўку лёс яго чытэльны.
З намі памяці экран:
паглядае Ян Скрыган
на настольнічак кужэльны.

*11.11.2011, в. Камень*

## На веснаход!

*Памяці Вінцэнта Гадлеўскага,*
*святара, грамадскага і палітычнага дзеяча*

Стаяць не помнікі – узлескі,
дзе смерць людзей парастаптала.
І там Радзіма прашаптала:
“Пралеска Памяці – Гадлеўскі”.

Да праўды Божае ахвочы,
ягоны лік не znік у скрусе.
У трасцянецкай Беларусі
цвітуць яго жывыя вочы.

Хай снег замёў яго крыніцу, —
ды не аціх святар-дарадца:
"І сёння трэба нам старацца
з Любоўю, Вераю яднацца...

Быць Беларусам — гэта праца!"

І мы праб'емся праз ігліцу —
яго Пралескамі назвацца.

*12.12.2011*

## Трансгранічныя памкненні беларуска-латвійскага праекта "Бэла–Дзвіна"

*Валянціне Крук*

Мне век Дваццаць Першы
дундзіць, як няўмеку:
— Пісаў жа ты вершы
у Бронзавым веку,
калі на Падзвінні
адкрылася ляда.
Стаяў ля плавільні:
работа і свята!
Пазычыў для балтаў
сярпы, бранзалеты...
Ні крыку, ні гвалту,
бо й ты меў сакрэты.
Асвейскую крыцу
каваў з падагрэвам...
 — Узводзіў сталіцу я
 балтам і крэвам.
 Праплыў Палатою
 з вясёлым усплескам.
 Быў волат са мною:
 я зваў Палатэскам.

– Хто руль зухавата
з Прыбалтыкай лучыць?
– Ляўданскі быў хватам,
Шадыра і Дучыц...
І я рыфмы з вежаў
варагу нёс, грэку...
Ды з бронзавых вершаў
ні клёку, ні леку.
Ля рума не крыгу, –
стырно падгаблюю
і – з Бэлай – у Рыгу:
абедзвюх люблю я!

*22.07.2011*

## Вяшчальніца

*Галіне Шаблінскай – з нагоды*
*10-годдзя канала “Культура”*

У дняпроўскай чаіцы
ёсць сястра – прыдзвінская,
бо для ўсіх вяшчальніца –
гулкая Шаблінская.

Іншыя так радыя
гергетаць над кручамі, –
а яна па радыё
вушы нам накручвае.

Хтосьці меле зяпамі,
круціцца пад грушамі, –
а яна, заўзятая,
гоніцца за душамі.

Трубіць набрыдзь хвацкая...
Ды ёсць крэпасць мінская:
мікрафон абмацвае
чуйная Шаблінская.

Постаці бяседныя –
з калядой і вербніцай...
І ў кустах аседлыя
да радзімы вернуцца.

Караткевіч бліскае
у нябесным выгуку:
– Блізкая Шаблінская,
Вы падобны выбуху!

...Што ж дадаць да класіка?
Адгукнуся трэлямі:
– З Вашага абцасіка
сёння на “Арэлях” я.

З роднай партытураю
Вы – розная, выразная...
Выгукну: з “Культураю”
Беларусь прыўкрасная!

*2011*

## Веставы

*Міхасю Казлоўскаму –*
*выдаўцу часопіса “Куфэрак Віленшчыны”,*
*“Выбраных твораў” Віктара Вальтара,*
*аўтару кніг “Галасы разбуджаных птушак” (2006),*
*“Нашчадак слаўных крывічоў” (2008),*
*“Пра кніжнікаў і кнігі” (2010)*

Міхась жыве пад Звонам.
Не з роду асначоў,
а кніжным плытагонам
ён славіць крывічоў.
    Міхась жыве між птушак.
    Разбуджаныя ім,
    яны вяртаюць душы
    на продкавы кілім.
Ён ажыўляе позвы,
каб жыццяпісаў стос
не засмакталі освы...
Наш Мацярык пад знос
    не пойдзе! Служыць кніжнік
    у Памяці ганцом
    і грэе свет нябліжні
    пад вокладкай-вянцом.

З яго куфэркаў скарбы
і я прымаць гатоў.
Цаню: не змёрлі фарбы
разбуджаных гадоў.
    Шчаслівей, Маладзечна,
    ў абдоймах Міхася.
    Хай стане Кнігай Вечнай
    і Беларусь уся!

*18.01.2011*

## Зярно ў гарэху

*Уладзіміру Содалю на 75-годдзе*

Францішак – зблізку,
а Ладымер – зводдаль.
Заву я: – Багушэвіч!
Клічу: – Содаль!

А рэха рыфмы
круціць над крыніцай:
        Рукойны – Свіраны.
        Кушляны – Жупраны.

І Мормальскі Ладымер не баіцца
да “Дудкі Беларускай” прытуліцца, –
бо даражэй за Торы і Караны...

І моліцца ён, Мормаля сынок:
        – Дарагі той куток,
        дзе рэзалі пупок.
        Святы той зацішак,
        дзе ўзнёсся Францішак...

Многа далі нам карыснага
Сымон Рэўка з-пад Барысава,
        Мацей Бурачок!

*21.01.2012*

## На дамалоткі!

*Жнівеньскаму Адаму Мальдзісу*

Хай дарогі нашы клеяцца!
Напінаем лейцы, —
час прыходзіць юбілеіцца:
мы ж — адзінаверцы.

Ўшыркі весніцы для Жыценя:
пад вязьмом і бохан!
Будзем жыць як набяжыць, ці не?
Жыць — глядзець на Бога!

Нам з табой, Адам, пры Балтыцы
гудзьбаваць прасторы.
Юбілеі — каб упарціцца,
лушчыць недаборы.

І здабытак браць у рэзгіны
жыцце-узнясенняў.
Юбілеі — гэта хрэсьбіны
свежага насення.

Будзем заўтра з дамалоткамі
ты і я за туза.
З мроямі салодкімі,
з думамі-малодкамі
дні
за лейцы
тузаць.

*30.01.2012*

## На добры ўкос!

*Майму настаўніку*
*Рыгору Барадуліну*

Дзень Народзінаў — бяжыць,
не зважае на марозы.
Барадулінскія крозы
і вушацкія бярозы
Богаслаўяць:
— Доўга жыць!
Іней з полацкай арбіты

ў Штандар Твой белы тчэ
Герба колер баявіты:
балцкія эрытрацыты
не знядужалі яшчэ!

Праз Цябе, Рыгор, і Люты
лютасцю не скалануты:
не развяжа часу пас.
І Паломнікам славутым
звесніць ён з Табою цуды.
Выплавяць натхнення гуты
кнігаў светлыя спаруды:
не заказ ёсць, а наказ!

Косаў вальс на siena laiks[1]
узнясе Мядовы Спас!

*06.02.2012 – 21.04.2012*

* * *

Сябры па Духу і Братэрстве,
увесь я ваш.
Любоў вядзе не да пратэсту,
не на кірмаш,
а да суладдзя, палагоды,
да еднаты.
Так, я з табой, Анёлак згоды.
Са мною – ты.
Паласкавею ў прытуленні
вясны жывой.
Дух у братэрскім прамаўленні –
канвы сувой.
Сябры сяўбы, сябры аздобы –
аховы круг.
Няхай любові ізатопы
натхняюць рух
да свята радаснай сустрэчы
без воглых сцюж.
...Чакаю. Вось і чуйны вечар
для родных душ.

[1] Siena laiks (латышск.) – час сенакосу. Так называўся зборнік Рыгора Барадуліна (Рыга, 1967 ).

## ХВАЛАСПЕВЫ

*аўтарам зборніка "У краіне паэтаў =*
*Au pays des poetes"/ Пераклад*
*на французскую Н. Дзябольскай)*

### Прызы прэзентацыі

Пастаўлю злюбнасці пячаць
перш, чым рыфмоіды пачаць,
бо адкрываюцца сакрэты:
у свежым воблаку паэты
і па-французску загучаць.
Перастварэнні — як бальзам —
дала Дзябольская-мадам,
каб залагодзіць сэрцы нам.
Яна з Масквы хадой удумнаю
разгойдвала Еўропу тлумную, —
і праз натхнёны пераклад
зноў Беларусь знайшла пасад.
...А тым, хто легчы ў том паспеў,
экспромтам склаў я хваласпеў.

### Пчолка

*Душа нектар свой, быццам пчолка,*
*усё шукае ў полі руху.*

Ніна Мацяш

Вясёлкай Ніначка была.
Жыла у Ніны
жар-птушка; пчолка з ёй піла
нектар з каліны.
Трыпутнік радасці лячыў
усе сустрэчы...
І як яе праз далячынь
крануць за плечы?
Бог будзе за яе старацца,
каб кожны верш быў за пасла.
Сцяжынка помыслаў і працы
між нас быллём не парасла.

## Нарцыс

*“Каб ты здраднікам стаў!” –*
*хтосьці зноў пракляне.*
Анатоль Сыс

А хто для нас на сёння Сыс?
Бунтар, ваяр або нарцыс?
Ён Беларусь кладзе ў агмень.
Ён грэе “Лён”... Ідзе духмень.

## Галавастая Венера

*Стаю ля яе ў задуменні...*
Уладзімір Караткевіч

Я, Венера, зноў у палоне.
Ох, сумуе маё улонне.
Безгаловыя дзе мужы?
Дзе начуеце вы сягоння?
Узяліся зноў за нажы?
Зноўку зброя і зноўку сечы?
Прыпыняю свае пытанні.
Сцеражыцеся: на світанні
я хачу вам... насы адсекчы.

## Нескачоны

*Пацвердзяць чарадзей і маг,*
*Чаго каштуюць*
*Кіў і мах.*
Рыгор Барадулін

Пацвердзяць чарадзей і маг,
Чаго каштуюць кіў і мах.
Пацвердзяць “інцель”[1] і сатрап:
Каханне – зірк,
Нялюба – храп.

---

[1] Азначэнне Валянціны Караткевіч.

## Удружу!

*Шукаю сутву быцця*
*І сутву нябыту шукаю…*

Аксана Спрынчан

Каюся і грашу…
Асцерагаюся не за душу:
раптам, як папрашу,
сутву тваю прыдушу.
Полымем я кружу,
небу твайму служу…
Так я табе скажу:
— Ціўкнеш — завараждку,
табе
сябе
удружу.

## Панцак з макам

*Кот Базыль гайдаўся ў гамаку,*
*На абед пасёрбаўшы са смакам*
*З малаком густога панцаку*
*Ды заеўшы абаранкам з макам.*

Міхась Скобла

Кот Базыль у гамаку
не заснуў ад панцаку:
мала было маку.
Не адчуў ён смаку.

Папрасіў у Міхася:
— Дай мне дозу для лася.
Ці баішся ты кату
даць на пробу муркату?

Кот Базыль пачуў: — Мур-мур!
Пакладу табе ў каптур
свае вершы-дотыкі.
Вер: яны — муркотыкі.

Прачыталі казку-быль:
я чмурэў і кот Базыль.

## На перакладзіне

*Я не пішу —*
*перакладаю.*
Алесь Разанаў

Без эмоцый, асцярожна
на Берлін, Белаазёрск
адпраўляцца сёння можна,
лёд жыццоя гусціць у воск.
Як жа мне Шляхоў баяцца?
Не калодзеж я, не глыж...
І мяне не возьме трасца:
не пісаць — перакладацца
буду я, каб узнаўляцца.
Сустракай мяне, Парыж!
Ты са мною загрыміш:
Эйфель сам перакладаць
будзе мне дапамагаць,
вершавежы падстрыгаць.

## Ногі-абярогі

*Не чапайце*
*Айчыну,*
*якая носіць народы.*
Валерыя Кустава

Каб абмераць Айчыну,
ногі топчуць лагчыну,
дзе знайшла я сцяжыну:
прабягала ў Еўропу,
але збілася з тропу.
Я, Валерыя Кустава,
легла ў ложа пракруства, —
толькі б ногі прамчалі
праз усе перашкоды
і ў Еўропе звыроды
Беларусь не чапалі:
з ёй нашу я народы.

Я ж сама — вершаў куль!
Рыфмы ў Рым завядуць...
А зачэпіць патруль, —
ператворыцца ў ртуць:
раскажу я, адкуль
мае ногі растуць.

## Прэлюдыя і выснова

*Вытрывай,*
*Мова,*
*Праз —*
*Зьнічаванне...*

Зьніч

Вытрывай, Мова,
прас разагрэты.
Зьніч мае Слова, мае сакрэты.
Стане, хто знае іх,
поруч маліцеля —
Зьніча-філосафа,
Зьніча-будзіцеля.

## Транжыр

*Сэрца сваё я транжыру*
*з легкадумнасцю юначай...*

Васіль Жуковіч

Між паэтаў па ранжыры
сэрца я сваё транжыру,
бо на гумар, на сатыру
сілы трачу. Мне б кефіру, --
і я зноў забагатыру.
Глянуць на мяне юначкі —
сэрца ўспыхне ад гарачкі.
А тады і ўсе балячкі
згінуць, як вазьму я ліру,
прытулюся да слухачкі, —
хай паверыць павадыру:
як з пустое палівачкі
выцякаюць вершы-спячкі, —
я ж служу святому кліру!

## Ніхто...

*Саджу рэмантантныя ружы,*
*Але ніхто не прыходзіць дзівіцца...*

Валянціна Аксак

— Рэмантантныя ружы — на дол:
не прыходзяць на іх падзівіцца...
— Мо на сукні у вас, жартаўніцы,
не такі ўжо высокі падол?
— Ох, паэты... Вам сняцца спадніцы —
толькі кожны з вас гол як сакол.
Я ж бяру рамантычны падзол,
сею з рук Еўфрасінні-чарніцы
рэмантантныя ружы-зарніцы.
Кветкі любасці стаўлю на стол.
— Валянціна! Вы ўся з таямніцы.
На букет мы ідзем падзівіцца,
каб натхніў ваш цнатлівы падол.

## Лавіце міг

*Любоў — не прыдарожны знак...*

Сяргей Панізьнік

Вяроўка на хрыбце ўпацела.
Дажыўся... А не быў лайдак.
Ды сам жа напісаў, аднак:
“Любоў — не прыдарожны знак,
шытво
паміж душой і целам”.

## Эскіз экстаза

*Зноў па лёсе маім ты прайшоў,*
*Ці то я па тваім праляцела,*
*Электрычка змяёй прашыпела,*
*Светлы дзень у нябыт адышоў.*

Таіса Трафімава

Зноў па лёсе маім ты прайшоў,
Прашыпела я электрычкай.
Я не стану дзяўчынай-пстрычкай.
Ой, кіпіць маёй раны шво...
Залячы! І я буду знічкай, —
каб мяне ў Маладзечне знайшоў.

## Учырванелая кніга

*Ад людзей патыхае смагай,*
*Завіваюцца валасы.*
Іна Каляда

Ад мяне патыхае смагай,
Завіваюцца валасы.
У паэзіі я з адвагай
не сваволюся для красы.
Ды “Чырвоную кнігу” вершаў
на Каляды дальбог спалю.
Будзе доказ для нашых гейшаў:
ледзяных людзей не люблю.

## Слон успамінаў

*Гартае восень жоўтыя лісты —*
*старую кнігу вечных успамінаў.*
Генадзь Бураўкін

Гартае восень і мае радкі.
А я не зломак. Вечар гаваркі
і сёння падыму на смелы рогат.
Слана ўспамінаў я вазьму за хобат,
каб не таптаў асеннія вянкі.
Век залаты не знікне з-пад рукі.

## Вечаровы эцюд

*У шаліках, як самагубцы,*
*Спяшаюцца людзі па вуліцы.*
Эдуард Акулін

Ні мячоў сёння ў іх, ні трызубцаў,
трыкалёру няма і “Пагоні”...
Глянь: у шаліках — самалюбцы! —
людзі пляскаюць у далоні.

## Анёлы

*Як час настаў –*
*і рушыў я да Бога.*
Уладзімір Някляеў

Як час настаў –
і рушыў я да Бога.
Ды побач, паглядзеў я,
анікога.
І толькі з неба зык:
– Ідзеш? Куды?
– Нясу нямому
лыжачку вады.

## Адповедзь

*Калісь глядзеў на сонца я…*
Максім Багдановіч

Калісь глядзеў на сонца я…
З мяне рагочуць, сэрца кліняць…
Але любоў не спалавіняць,
бо Беларусь – бясконцая!
Адповедзь зыркая мая:
не слепніце, калі вас хіляць…
А сонца
цені не знясіляць.

*2011*

## Эпілог

Будзем неба прытуляць
і на досвіткі глядзець,
каб любоў сваю люляць,
пад заранкай маладзець.

Трыста шэсцьдзесят пяць:
дні – серабро і медзь…
Любіш – будзеш умець
колцы гадоў каваць.

Будзем сэрцы велічаць,
рай ствараць — не міражы,
каб каханне насычаць
над каўчэгамі душы.

Мы гатовыя пачаць
(Божа, шчасце не зацьмі!)
сонейка вачмі ўключаць,
поўню выключаць грудзьмі.

Трыста шэсцьдзесят пяць:
дні — серабро і медзь...
Любіш —
будзеш умець
колцы гадоў каваць.



Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая) на сваім юбілеі.
Вільня. 30 верасня 1982 года.
Фота Сяргея Панізьніка






Медалі, прысвечаныя Янку Купалу і Якубу Коласу.
Аўтар Яніс Струпуліс (Рыга). 1982 год










Малюнкі і экслібрысы Рыгора Фралова (Львоў—Менск). 60-я гады



На здымку Іван Мележ і Сяргей Залыгін.
Ялта. Красавік 1968 года.
Фота Сяргея Панізьніка



Сяргей Панізьнік
у доме творчасці.
Красавік 1968 года.
Фота Івана Мележа



Данута Бічэль-Загнетава.
Масква. Сакавік 1969 года.
Фота Сяргея Панізьніка



Вячаслаў Рагойша, Таццяна Кабржыцкая, Дзмітро Чараднічэнка.
Кіеў. 22 снежня 1986 года. Фота Сяргея Панізьніка









Аўтограф Ларысы Геніюш.
Зэльва. 10 ліпеня 1968 года




Экслібрыс бібліятэкі Радзівілаў у Нясвіжы
(з архіва Баляслава Брэжгі. Рыга)



Партрэт Яна Скрыгана.
Малюнак з архіва часопіса “Sygnały”.
Львоў. Другая палова 30-х гадоў










Экслібрысы
Зоські Верас (1982 г.),
Адама Мальдзіса (1982 г.),
і Сяргея Панізьніка (2002 г.).
Мастак Вячка Целеш (Рыга)



Віталь Скалабан у студыі Беларускага тэлебачання.
Снежань 1981 года. Фота Сяргея Панізьніка



Святкаванне 105-гадовага юбілею Зоські Верас у Менскай гімназіі № 204 (цяпер № 10). 30 верасня 1997 года. Фота Віктара Ставера

*Ларыса Геніюш*

* * *

О Радзіма, куточак славянскі.
Каб ад згубы Цябе ўсцерагчы,
сыны верна ля вогнішч купальскіх
сваіх продкаў цалуюць мячы!

Сяргею Панізніку – у памяць сустрэчы і ў доказ павагі
ад аўтаркі.

*10.07.1968.*
*Зельва*

Надпіс на зборніку Ларысы Геніюш “Невадам з Нёмана” (Мінск: Беларусь, 1967).

*Ніна Мацяш*

* * *

*Сяргею Панізьніку*

...І любасць белаю лілеяй
Усходзіць з хваль саракавых...
Няхай давеку не мялее
Крыніца радасцей тваіх,
Турботаў, клопатаў вясновых.
У долі шчодрая рука:
Ужо не спустазеліць слова
Тваё
ў палях Мацерыка!

*2 траўня ’82*

*Уладзімір Скарынкін*

## Як бараноў, час пасвіў нас

*Сяргею Панізьніку*

Як бараноў,
час пасвіў нас,
Не дазваляў барнуць і пікнуць.
Быў “пан і знік”
на нейкі час.
І мог, відаць, навекі знікнуць.
З гвардзейскай выпраўкай салдат –
Ад родных котлішчаў асмалля
Ты дваццаць пяць гадоў назад
Нам запаліў кастры Купалля.
Гарэць,
галіняцца яны
нязгаснай Кронаю надзеі.
Крывіцкіх коней табуны
Ляцяць праз буры і завеі.
Для нас ужо настаў час пік,
Тым больш,
што зараз можна пікнуць.
Паэт, які дасюль не знік,
Ужо, відаць,
не можа знікнуць.

*19.05.1992*

*Пятрусь Макаль*

## Экспромт з нагоды пяцідзесяцігоддзя Сяргея Панізьніка

Нібы чарадзейны рамізнік,
Што стомы не знае ў яздзе,
Няспынна Сяргей Панізнік
Свой воз паэтычны вядзе.

Не баючыся выбоін,
Ці спёка, ці стынь на дварэ,
Як сталы шукальнік і воін,
Вышыні Парнаса бярэ!

Хаця юбілей і падзея,
Ды цешыць найбольш у жыцці,
Што Кроне ягонай надзеі
Яшчэ і шумець і расці!

*19.05.1992*

*Антаніна Хатэнка*

## Вецьце думаў

Над радком, пераломленым промнем,
над узрослым у дол курганом
б’ецца гольле ў падБогавай Кроне
і ў маё зазірае вакно.

У смалы Рагвалодавы руны,
і каравая памяць зямлі
зьберагаюцца ў кронных карунах,
каб над хатаю голаў схіліць.

Я — вараг незямнога заліву
зь цяжкай ношаю згадкаў і сноў.
Мне б вычытваць прыроду шчасьліва
і сьвітанкам расхрыстваць вакно.

Толькі мукі маёй Беларусі
я трымаю, як судны Статут.
І да Богавай Кроны малюся:
агарні, атулі мяне тут.

“Я ж ад гулкага зазімку помню”,
як “сыходзіла сонца з вачэй”...
Над жыцьцём, пераломленым промнем,
з Кроны ў нетру жывіца сьцячэ.

...А з карэньня да Кроны — пісьмёны...
Радаводнага Дрэва кару
прачытаюць — паземна — плямёны,
што ўзыходзяць ТВАРЫЦЬ Беларусь.

Вецьце думаў — ад Кроны да нізу,
і Паэтавых крозаў вянкі...
Не тутэйшы — крэўбалцкі Панізьнік
жывіць будучынь нашу з рукі.

*13.05.1997*

*Андрыс Веянс*

## Нашаму сябру Сяргею Панізьніку з самымі сардэчнымі пажаданнямі на 60-гадовы юбілей па-латгальску

***(пераклад)***

Жыві, паэзія Сяброў! Цурчы
Мне жаўруком у майскім ветравеі.
Яна бязмежная... Я на плячы
Трымаю спеў — і шлях не затравее.
Хай і Табе дзеньдобрыць, сябра мой,
падаць руку братэрства праз абшары:
Вясёлку мы ўзаўём над галавой
З хмяльных усплёскаў паэтычнай мары.

*05.05.2002.*
*Рыга*

*Ніна Янсанэ*

## Зорная пошта

Уначы я гляджу на сузор'е Мядзведзіцы, —
Каб зорнаму небу расказаць
Пра тое, як жывецца нам тут,
Перадаць яму свой боль і свой сум,
І нашы маленькія радасці,
Якія падараваў прамінулы дзень.

Браце! Калі хочаш уведаць пра нас,
Навіны спазнаць, успомніць мора,
Юрмалу і сваіх сяброў, —
Глядзі ў гэты час на зоры!
І яны табе перакажуць,
Чаму нашы маркотныя сэрцы
Сумуюць і чакаюць сустрэчы.

Але зямныя спатканні адкладваюцца.
Радасць цяпер у тым,
Што з тэлефона пачую родныя галасы
І ў думках пабуду з усімі вамі, —
Нібыта пасяджу за адным сталом.
Таму самая надзейная — зорная пошта.
Глядзі на неба, браце!
І мы не згубімся пад нашым сузор'ем.

*Чэрвень—ліпень 2006.*

*Юрмала*

*Міхась Скобла*

## Шаноўнаму Сяргею Панізьніку

Салённая дама і крытык-капрызьнік,
Зьмяняецца мода, праходзяць часы, —
Ды хвацка заўсёды глядзіцца Панізьнік —
Клясычныя — слова, і чуб, і вусы!

*12.09.2009.*
*Менск*

*Рыгор Барадулін*

**Vivat!**

*Акразычэньне Сяргею Панізьніку*
*на 10 траўня 2012 г.*

**З**ялёная вясна баялася спазьніцца.
**П**аганца валуна хрысьціла бліскавіца.
**А**тожылак цягнуўся да сьвятла.
**Ў**раселыя, сябе шукалі гукі.
**Н**амер крылатых стрэл гукалі лукі.
**А**бачлівасьць сьцяжыну сноў вяла.
**Г**аіла чысты боль нябёс вясёлка.
**О**дахвале начы пярэчыў золак золка.
**Д**алічваў ветравей свае дары.
**Д**абегчы цень хацеў да той гары,
**З**ь якой пачатак браў ручай настрою.
**Е**ў з голаду агонь журбу сырою.
**М**еў профіль малады вятрак стары...

*25.03.2012*

*Вольга Іпатава*

**Сяргею Панізьніку**
**на прэзентацыі яго “Пры сьвячэньні...”**

Я яму пакланіцца нізенька
Не саромеюся, а ганаруся,
Бо сардэчна люблю Панізьніка
Дон Кіхота маёй Беларусі.

*21.01.2005*

*Георгі Ліхтаровіч*

* * *

Па нізе ўверх ён не паўзе за срэбнік.
Пасрэднасці Панізьнік не пасрэднік.
Нізь на паверхні — вершаў павярхоўных
Не піша для пасрэднасцяў вярхоўных!

*Студзень 2005*

*Вячаслаў Рагойша*

## Ён скарбы творыць, скарбы адкрывае

### *Да 70-годдзя Сяргея Панізьніка*

Ніколі не думаў, друкуючы калісьці ў "Маладосці" (1968, №1) рэцэнзію на першую кніжку лірыкі Сяргея Панізьніка "**Кастры Купалля**" (1967), што давядзецца мне пісаць пра гэтага творцу і да яго сямідзесяцігоддзя. Божа, колькі часу прайшло, колькі падзей адгрымела! Гэта, лічы, была ледзь не сярэдзіна мінулага стагоддзя... Няма ранейшай вялікай і магутнай дзяржавы – СССР. Няма ранейшай сацыяльна-палітычнай сістэмы – сацыялізму. Няма... Ды што там – "няма"! Парадуемся таму, што ёсць у другім дзесяцігоддзі дваццаць першага веку. Ёсць незалежная дзяржава – Рэспубліка Беларусь! Ёсць магчымасць працаваць дзеля Бацькаўшчыны, яе культуры, светлай будучыні! Ёсць шчырыя, нястомныя, самааддыныя руплівцы роднай Беларусі! І сярод іх у першым шэрагу – колішні дваццаціпяцігадовы, а сённяшні сямідзесяцігадовы Сяргей Панізьнік...

Некалькі біяграфічных звестак. Нарадзіўся Сяргей Сцяпанавіч Панізьнік (пішу, як ён і лічыць патрэбным, прозвішча з мяккім знакам) 10 траўня 1942 года ў вёсцы Бабышкі, дакладней – на хутары, які ўжо знік з геаграфічнай карты Мёрскага раёна Віцебскай вобласці. Вучыўся ў Лявонпальскай сярэдняй школе (1949–1959). Да службы ў арміі скончыў Магілёўскае медычнае вучылішча (1962), таму ў войску служыў у якасці фельчара. Але цяга да творчасці, якая абудзілася яшчэ ў школьныя гады і актыўна праявіла сябе на старонках армейскай дывізіённай газеты, прывяла на факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага вайскова-палітычнага вучылішча.

Як культорг факультэта Сяргей арганізоўваў наведванне курсантамі спектакляў у оперным тэатры, філарманічных канцэртаў. Але самае галоўнае: пасля самападрыхтоўкі яму дазвалялі адлучацца ў львоўскія бібліятэкі, архівы, музеі. А там – неацэнныя скарбы нашай гісторыі і культуры. З хваляваннем браў у рукі Біблію Францішка Скарыны, кнігі з аўтографамі Янкі Купалы, захапляўся

прыгажосцю слуцкіх паясоў... Нават у спецфонды мог праходзіць з фотаапаратам! Упершыню пабачыў фота маладой Наталлі Арсенневай, Міхася Забэйды-Суміцкага, Францішка Аляхновіча, Уладзіслава Галубка... Фатаграфаваў старонкі легендарнай "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага. Занатоўваў цытаты, складаў бібліяграфію па беларусазнаўстве.

У 1965 годзе намаганнямі няўрымслівага юнака было створана "Беларускае зямляцтва". У яго ўвайшло каля чатырох дзясяткаў нашых суайчыннікаў, якія вучыліся або працавалі ў Львове. Гэта была моладзь не толькі з вайскова-палітычнага вучылішча, але і з універсітэта, медычнага і паліграфічнага інстытутаў, філармоніі... Шчыра дапамагалі нашаму зямляцтву львоўскія літаратары. Сяргей падахвоціўся перакладаць вершы ўкраінскіх паэтаў, а Іван Гнацюк і Раман Лубкіўскі — ягоныя.

Тут хочацца згадаць радкі з верша Алеся Ставера: "*Каб любіць Беларусь нашу мілую, // Трэба ў розных краях пабываць*". Несумненна, не заўсёды гэта слушна, але, як правіла, замежжа востра абуджае пачуццё настальгіі, любові да Радзімы. З Сяргеем такое здарылася. І здарылася найперш таму, што прыроджаная цікаўнасць і любоў яго да родных мясцін, іх мовы, традыцый, фальклору арганічна і свядома спалучылася з спасціжэннем раней не вядомых і знакавых ведаў пра Бацькаўшчыну. Спалучылася дзякуючы працы ў бібліятэках, архівах, знаёмству з сям'ёй славутага беларусіста І. Свянціцкага, аўтара знакамітага даследавання "Адраджэнне беларускага пісьменства" (Львоў, 1908), чалавека, які годна падтрымліваў нашу паэтэсу-рэвалюцыянерку Цётку, дапамог ёй выдаць у Жоўкве кнігі "Хрэст на свабоду" і "Скрыпка беларуская" (1906). А таксама — дзякуючы працы ў "Беларускім зямляцтве", якое лучыла тагачасных маладых беларусафілаў — украінцаў (І. Гнацюк, Р. Лубкіўскі, У. Лучук, А. Сенатовіч ды інш.) і беларусаў (В. Коўтун, І. Ляўчук, Р. Фралоў ды інш.) і якім кіраваў паважаны выкладчык беларускай літаратуры Львоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя І. Франко дацэнт (пазней — прафесар) І. А. Дзенісюк.

У залаты львоўскі час Сяргей адкрываў для сябе скарбы беларускай гісторыі, мовы, беларускай культуры і літаратуры. І прыпала гэта якраз на перыяд актыўнай маладой паэтычнай творчасці, што абумовіла яе асноўны —адкрывальніцка-радзімазнаўчы — пафас. Як сёння добра відаць, не толькі тагачаснай творчасці, але — і ўсяго жыцця Панізьніка ў паэзіі. Дый не толькі ў паэзіі. Звернемся да згаданай ужо кніжкі "Кастры Купалля" і параўнаем яе галоўныя матывы з матывамі далейшай творчай дзейнасці Панізьніка.

У вершах кнігі "Кастры Купалля" (як, зрэшты, і ва ўсёй творчасці яе аўтара) выразна адчулася "зазямленне" паэта ў родную

мову, фальклор. Ужо сам па сабе зварот савецкага кадравага афіцэра да беларускай мовы (а Панізьнік у 1967 годзе скончыў вучылішча, стаў афіцэрам, далейшую службу стаў праходзіць ва Уруччы ля Менска) быў па тым часе з'явай не шараговай. Дзяржаўная ж мова ў СССР, у тым ліку ў арміі, была руская. Ці шмат пасляваенных афіцэраў-пісьменнікаў увайшло ў беларускую літаратуру? Пытанне рытарычнае. А Сяргей Панізьнік увайшоў. І не проста пачаў пісаць на беларускай мове, а выяўляць разам з тым яе глыбінныя лексічныя і стылёвыя пласты – дыялектныя, гістарычныя, прафесійныя, размоўныя, фальклорна-песенныя... Стаў пры патрэбе звяртацца і да аказіяналізмаў, наватвораў (*зеленатраўе, даланістая* папараць, *звячэлы* курган, доля *вячыстая* і г. д.). Прычым, такі "адкрывальніцкі" імпэт у дачыненні да роднай мовы быў важны для паэта не сам па сабе, а выклікаўся жаданнем глыбей і дакладней выявіць думкі і пачуцці свае і свайго сучасніка. Як, дарэчы, і сёння, калі ён у сваёй паэтычнай творчасці гэтаксама, толькі ўжо з большай самарэалізацыяй, звяртаецца да слоўных залацінак, што адшуквае ў залатаносных жылах роднай мовы, або паводле іх узору стварае свае: *безнароддзе, за́смуж, заснежжа, надзеіць, абуднасць, лагво, відзежа, вершамроі, вачапорыстае* зло, *любароднае* святло, *жаднец, недзяржавец, додніца* і дзясяткі іншых. Калі ведаць гэта, нельга здзіўляцца, што Панізьнік – зусім не мовазнаўца, не фалькларыст – час ад часу друкуе на старонках перыёдыкі запісы дыялектнай мовы, найменні людзей свайго прыдзвінскага краю, рознага роду выслоўі: прымаўкі і прыказкі, прыгаворкі, жартоўныя пажаданні і зычэнні, вобразныя выказванні, параўнанні ды інш. А таксама запісы народных песняў.

Ужываючы словы з вайсковай тэрміналогіі, паэт так акрэслівае сваё стаўленне да мовы:

*Не вараг я ваяўнічы –*
*мечнік службы адмысловай.*
*Мне пасуе да аблічча*
*светлая кальчуга слова.*

*Хто прамоўца – абаронца*
*ад нямоты і нягоды:*
*Слова – промнічак лагодны,*
*мова – месячык і сонца.*

*Гукамі зямлі лячуся.*
*хай глядзіць Айчына горда:*
*Я ў кальчузе, ты ў кальчузе, –*
*мы сумоўная кагорта!*

("Кальчуга слова") [4, с. 38].

Паказальна, што гэты верш Панізьнік уключыў у кнігу для дзяцей “**Літары ў расе**” (2011). Паэт свядома абуджае ў дзяцей ўвагу і павагу да роднай мовы. Як і ў іншых сваіх дзіцячых кніжках: “**Адкуль вясёлка п’е ваду**” (1981), “**Мы – грамацеі**” (1989), “**Золкая зёлка**” (1999). Бо, паводле паэта, “*мова – яселькі народа, павітуха змагароў*” (“Валадарства Слова”). Ён не супраць, нават рады папрацаваць у гэтых “ясельках”, навучыць дзетак многім арыгінальным беларускім слоўцам. У прыватнасці, расказаць, як вобразна і дасціпна называюцца беларускія лекавыя расліны (буркун, воўчае лыка, святаяннік, трыпутнік, журавіны, зубрава трава), народныя святы (Стрэчанне, Вялікдзень, Каляды, Купалле, Сёмуха) і інш. Відавочна, калісьці бацькі адкрылі яму гэтыя назвы, а цяпер ён сам перадае пачутае дзецям і ўнукам.

Што да беларускага фальклору, найперш песеннага, то ў яго веданні, а тым больш – зборы, няшмат хто з сучасных паэтаў можа параўнацца з ім. У свой час Панізьнік аб’ездзіў з магнітафонам розныя куткі Прыдзвіння, запісваючы ад родзічаў, суседзяў і чужых людзей народныя песні. Тады сама ён зрабіў і ўнікальныя запісы беларускіх народных песняў у выкананні Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Барадуліна і яго маці Акуліны, Міколы і Любы Грынчыкаў ды інш. Некаторыя з запісаў дзякуючы Панізьніку прапісаліся нават на электронных дысках. У сваю чаргу народная песня паўплывала на вобразны свет і рытма-інтанацыйны лад многіх вершаў паэта, што прыцягнула да іх увагу кампазітараў. У выніку з’явілася асобнае выданне “**Дабравест**” [1], дзе разам з нотамі надрукаваны словы паэта, пакладзеныя на музыку кампазітарамі В. Войцікам (“**Беларускі Дом**”, “**Абаронцы Айчыны**”, “**Споведзь**”, “**Чапялінка**”), Э. Зарыцкім (“**Дом дружбы**”, “**Паднябесная песня**”, “**Горад-пабрацім**”), М. Пятрэнкам (“**Нарачанка**”, “**Голас горада**”), І. Салаўёвай (“**Вялікдзень**”, “**Буслянка**”, “**Песня плытагона**”), А. Чыркуном (“**Салаўіная страла**”, “**Пад зоркаю**”, “**Карагод**”), З. Яўтуховічам (“**Эмігранты з Беларусі**”, “**Спадарыня Юля**”), М. Яцковым (“**З Купалам у сэрцы**”, “**Панна Ганна**”, “**Світальная зорка**”) ды інш. А нядаўна нацыянальная фанатэка папоўнілася асобным літаратурна-музычным альбомам “**Арэлі**” з песнямі на словы Панізьніка, якія можна паслухаць у выкананні Г. Радзько, А. Ярмоленкі, У. Палупанава, М. Яцкова ды іншых спевакоў [гл.: 3].

Варта, аднак, заўважыць наступнае. Ужо самі назвы песняў сведчаць неаспрэчна: перад намі не пацяшальная папса, якой так многа развялося апошнім часам, а творы, разлічаныя на ўспрыманне і сэрцам, і розумам. Накшталт лепшых беларускіх народных песняў. Тых, рэмінісцэнцыі з якіх выклікáў Панізьнік яшчэ ў “Кастрах Купалля”.

Так, адзін з сваіх вершаў у зборніку ён пачынаў словамі: "*Край мой – маё сумленне…*", – нагадваючы чытачам словы старадаўняй беларускай жаўнерскай песні:

*Край мой – сумленне маё,*
*Сям'я – павага мая,*
*Жонка – парада мая,*
*Дзеці – пацеха мая.*

У сваёй колішняй рэцэнзіі на кнігу я падкрэсліваў, што ў невядомага жаўнера-беларуса, які склаў песню, і ў сучаснага паэта-салдата Панізьніка шмат агульнага – і ў ладзе думак, і ў характары перажывання, і ў самой сіле пачуцця. Тым не менш, Панізьнік – чалавек ужо зусім іншага часу, прадстаўнік новай не толькі сацыяльнай, але і нацыянальнай фармацыі. Для яго "край мой" – не толькі прадчуванне "сваёй" зямлі, гэта, перш за ўсё, – дзяржава Беларусь. Менавіта дзяржава. Пачуццё дзяржаўнасці – вось тое новае, што нясе ў сабе верш Панізьніка і што вызначае ўсю яго лірыку наогул.

Тое, што я вычуў як рэцэнзент у першай кнізе паэта і што мне ўдалося сказаць у тагачасным падцэнзурным выданні, яшчэ больш умацавалася ў новых вершаваных зборніках Панізьніка: "**Палявая пошта**" (1972), "**Крона надзеі**" (1975), "**Чало і век**" (1979), "**Слова на дабрыдзень**" (1982), "**Мацярык**" (1984), "**Жыцень**" (1986). І ўжо з асаблівай выразнасцю гэтае адчуванне сапраўднай і самастойнай краіны, дзяржавы Беларусь (а не толькі краю, роднай зямлі) адчулася напярэдадні і ў часы абвяшчэння незалежнай Рэспублікі Беларусь, што знайшло адлюстраванне ў зборніках "**Стырно**" (1989), "**А пісар земскі…**" (1994), "**Пры сьвячэньні…**" (2004). Увогуле, Панізьнік, як і многія патрыятычна настроеныя, нацыянальна свядомыя беларускія літаратары, мастакі, кампазітары, тэатральныя дзеячы, яго папярэднікі і сучаснікі, сваёй творчасцю таксама прычыніўся да аднаўлення на пачатку 1990-х гадоў дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Зніч яго паэзіі незгасальна палаў некалькі дзесяцігоддзяў, асвятляючы для беларусаў закуткі гістарычнай памяці, саграваючы іх пачуцці нацыянальнай годнасці і гордасці, паказваючы, вобразна кажучы, святло ў канцы тунеля. І мы, разам з паэтам, можам горда сказаць:

*Сёння знойдзеным ветразем сцелецца*
*ваяроў-весляроў павучанне:*
*"Анікуды Айчына не дзенецца,*
*не сплыве Беларусь у маўчанне!"*

("Вялікае Княства Беларусь") [6, с. 38].

Гэтак, як адкрываў Сяргей Панізьнік – для сябе, а разам з тым і для іншых – скарбы роднай мовы і вусна-паэтычнай творчасці, разгортваў ён у сваёй творчасці і малавядомыя пласты нядаўняй і даўняй гісторыі. Гісторыі Бацькаўшчыны і гісторыі ўласнага радаводу. Ён кіраваўся слушнай ісцінай: "*Будзем памятаць мы, – // будуць помніць і нас*" (**"Палетак памяці"**). Прычым, гэта адбывалася на працягу ўсёй яго творчасці і, няма ніякага сумневу, будзе адбывацца і далей. Найперш варта адзначыць яго адкрыццё з магнітафонам у руках (пры апытанні землякоў), а пасля і на папяровых старонках, жахаў нацысцкай акупацыі і, з другога боку, чалавечай мужнасці і трывушчасці пад час Другой сусветнай вайны – у кнігах дакументальнай прозы **"Пасля вогненных вёсак..."** (1980), **"Браніслава"** (1985), **"Освейская трагедия: Книга народной памяти"** (1992). Нельга забыць! – сцвердзіў сваімі творамі пісьменнік. Гэта, можна сказаць, і не гісторыя яшчэ, а сённяшні боль, сённяшняя памяць. Але ж нельга забываць, паводле Панізьніка, гераічнае і трагічнае, здзейсненае на нашай зямлі і ў даўнія часы. Скажам, у кнізе **"Слова на дабрыдзень"** "паўстаюць вобразы выдатных сыноў Беларусі, імёны якіх ужо вядомыя свету ці яшчэ напаўзабытыя ў нашай памяці. Іх вобразы – вецце ў Дрэве нашай гісторыі і культуры" [7]. А вершаваны зборнік **"А пісар земскі..."** ўвогуле ўвесь надыханы гісторыяй роднай зямлі: ад назвы, што ўзята з артыкула Статута Вялікага Княства Літоўскага (Вільня, 1588), і да кнігі цалкам, кожны раздзел якой – гэта алюзія на тое ці іншае месца Статута. Прычым, як слушна падкрэсліла крытыка, «паэтычны радок Панізьніка ні ў якім разе не ілюстрацыя да навакольных калізій. Аўтар кнігі "А пісар земскі..." – увесь у трывозе... Ад старонкі да старонкі праходзіць у зборніку тэма трагедыйнасці, ахвярнасці, пакут беларускага народа. Сяргей Панізьнік піша пра гэта востра, імкнецца зазірнуць у нутро катавальняў, выразнымі мастацкімі фарбамі адлюстраваць ката. А то ж у нас часта ў бок апошняга пазіраюць (і паэты таксама) сарамліва-спуджана» [2].

Асабліва паказальная ў духу адкрыцця гісторыі – для сябе і для чытачоў – адна з нядаўніх кніг Сяргея Панізьніка **"Пры сьвячэньні..."**. Кожны з 7 яе раздзелаў (яны названы "ра́тамі") – гэта асобныя старонкі гісторыі краіны, пачынаючы ад радаводнага дрэва самога паэта (раты **"На падкове Дзвіны"**, **"На шляху з Грэкаў у Варагі"**), гісторыі яго роднага кута (**"Уверх па цячэнні"**, **"Апіева дарога"**), Прыдзвіння (**"Праходка іранічнага апазіцыянера"**), і заканчваючы гераічнай і трагічнай гісторыяй усёй Беларусі (**"Мемарыяльная Сасна спаткання"**, **"У радню сабрацца"**). Імкнучыся "*слова выдаць залатое // на прызнанні, на зычэнні // перад кожным лікам ясным*", паэт згадвае дзясяткі выдатных асоб, прысвячае ім паэтычныя радкі,

пачынаючы ад сваіх дзядоў, бацькоў, землякоў (дзеда па кудзелі Рыгора Селюна – садоўніка з Царскага Сяла, маці, сястры Ніны, графоў Лапацінскіх ды інш.) і канчаючы знакамітымі гістарычнымі дзеячамі (Давыд Гарадзенскі, Міндоўг, Ф. Кміта-Чарнабыльскі, Сцяпан Батура, Р. Траўгут, К. Каліноўскі, Б. Тарашкевіч ды інш.), пісьменнікамі (Я. Баршчэўскі, Я. Купала, Я. Колас, А. Адамовіч, В. Быкаў, У. Караткевіч, М. Танк, Н. Мацяш, В. Іпатава ды інш.), гісторыкамі (М. Ермаловіч, Г. Каханоўскі), мастакамі, артыстамі (Я. Кулік, А. Марачкін, М. Захарэвіч, Г. Дзягілева ды інш.).

Адчуваецца, паэтычна адкрываць яшчэ раз, а нярэдка і ўпершыню, скарбы гістарычнай і культурнай памяці для паэта радасна і... лёгка. Бо да гэтага ён адкрыў іх як навуковец, тэкстолаг. Так, працуючы доўгі час у выдавецтве "Юнацтва", а пасля – вучоным сакратаром у Дзяржаўным літаратурным музеі Я. Купалы, Панізьнік уклаў 10 выпускаў гістарычнай літаратуры серыі "Бацькаўшчына" (1990–2002), шэраг зборнікаў для серыі "Школьная бібліятэка" (творы пра К. Каліноўскага, М. Багдановіча, Я. Купалу, Я. Коласа). З другога боку, ужо як этнограф ён уласным коштам у сябе ў родным куце стварыў, а пасля перадаў у грамадскае карыстанне два краязнаўчыя музеі – "На шляху з Варагаў у Грэкі" ("Хата бабкі Параскі" ў в. Цінкаўцы Верхнядзвінскага р-на, у 1979 г.) і Музей радзімазнаўства пры Лявонпальскай сельскай бібліятэцы з філіялам "Хата бабкі Ядзвінні з роду Панізьнікаў" (Мёрскі р-н, у 1999 г.). Скажыце, ці шмат знойдзецца падобных энтузіястаў, патрыётаў-бяссрэбранікаў? Пытанне зноў жа рытарычнае...

Ды не толькі сваё, кроўнае адкрывае Панізьнік – для сябе і для нас. Адкрывае і іншакраіннае, замежнае, сусветнае. Прычым – розным чынам. Так, ён працяглы час стаяў ля стырна таварыстваў "Беларусь – Чэхія" і "Беларусь – Латвія". Адкрываючы для беларусаў мацерыкі прыгожага пісьменства гэтых (ды іншых) краін, браў актыўны ўдзел у выданнях (як укладальнік, аўтар прадмоў і пасляслоўяў) двухтомнай анталогіі "**Латышская савецкая паэзія**" (1984), зборнікаў "**Песня Даўгавы**" (1986), "**Дайны: Латышскія народныя песні**" (1987), "**Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі**" (2003), кніг Э. Вайвадзіша "**Вершы, паэма, згадкі**" (1996) і В. Вальтара "**Выбраныя творы**" (2009). Асабліва плённа ён праявіў сябе як перакладнік, перадусім украінскай, латышскай, чэшскай і славацкай паэзіі, на беларускую мову. Пераклады яго неаднаразова змяшчалі і змяшчаюць розныя беларускія перыядычныя выданні. А ў 1997 годзе Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны выдаў кнігу "**Сустрэча роднасных сусветаў**", куды ўвайшлі творы паэтаў Азербайджана, Венгрыі, В'етнама, Грузіі, Казахстана, Кыргызстана, Латвіі, Малдовы, Расіі, Славакіі, Туркменістана,

Украіны, Чэхіі ва ўзнаўленні Панізьніка і некаторыя яго вершы ў перакладах на англійскую, рускую, балгарскую і латышскую мовы. А ў кнізе "**На ўсе вякі...**" (2011) надрукавана вялікая падборка яго вершаў на французскай і англійскай мовах...

Падумалася: як лепш назваць гэтую – як і ўсю папярэднюю (творча-паэтычную, навукова-тэксталагічную, краязнаўча-этнаграфічную) – дзейнасць Сяргея Панізьніка? Як адкрывальніцкую ці стваральніцкую? Хто ён: адкрывальнік скарбаў ці іх творца? Несумненна, – і тое, і другое.

Пра гэта, дарэчы, яскрава сведчаць заслужана атрыманыя ім высокія ўзнагароды, і не толькі нашы, а замежныя: медаль Францыска Скарыны, Ганаровая грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Ордэн Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі, дыплом ЮНЕСКО. А таксама – званне ганаровага грамадзяніна горада Асвеі.

## Літаратура

1. Дабравест: Песні на словы Сяргея Панізьніка. – Мінск: Чатыры чвэрці, 2006.

2. Карлюкевіч, А. Барані, паэзія, грамадзянскасць! / Алесь Карлюкевіч. – Голас Радзімы. – 1994. – 24 лістапада.

3. Мартыненка, В. На арэлях беларускай свядомасці: "Арэлі": Сяргей Панізьнік у вершах і песнях / Вітаўт Мартыненка // Наша слова. – 2011. – 8 чэрвеня.

4. Панізьнік, С. Літары ў расе: зб. вершаў для дзяцей / Сяргей Панізьнік. – Мінск: Выд. В. Хурсік, 2011.

5. Панізнік, С. Не толькі Гамеру... / Сяргей Панізнік // З росных сцяжын: аўтабіяграфіі пісьменнікаў Беларусі. – Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2009.

6. Панізьнік, С. Пры сьвячэньні...: зб. вершаў / Сяргей Панізьнік. – Вільня: Наша Будучыня, 2004.

7. Рагуля, А. "На жывучай нашай мяжы" / Аляксей Рагуля // ЛіМ. – 1982. – 26 лістапада.

## Звесткі пра аўтара

Сяргей Панізьнік (псеўданім Сяргей Папар) нарадзіўся 10 траўня 1942 года. Друкуецца з 1959 года. Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1967 года.

**Аўтар зборнікаў паэзіі:**

“Кастры Купалля” (1967), “Палявая пошта” (1972), “Крона надзеі” (1975), “Чало і век” (1979), “Слова на дабрыдзень” (1982), “Мацярык” (1984), “Стырно” (1989), “А пісар земскі...” (1994), “Пры сьвячэньні...” (2004), а таксама спеўніка “Дабравест” (2006), дыска “Арэлі – Сяргей Панізьнік у вершах і песнях” (2011).

**Аўтар зборнікаў для дзяцей:**

“Адкуль вясёлка п’е ваду” (1981), “Жыцень” (1986), “Мы – грамацеі!” (1989), “Золкая зёлка” (1999), “Літары ў расе” (2011).

**Апублікаваў кнігі дакументальнай прозы:**

“Пасля вогненных вёсак...” (1980), “Браніслава” (1985), “Освейская трагедия: Книга народной памяти” (1992), “Дзеці вайны” (разам з Л. Грамовіч, 1993).

У **зборніку “Сустрэча роднасных сусветаў”** (1997) змешчаны пераклады вершаў замежных паэтаў на беларускую мову і пераклады вершаў аўтара на англійскую, балгарскую, латышскую, польскую, рускую, украінскую, чэшскую мовы.

У **зборніку “На ўсе вякі...”** (2011) змешчаны пераклады вершаў аўтара на англійскую і французскую мовы.

**Быў укладальнікам зборнікаў:**

“За цябе, Радзіма” (1984), “Латышская савецкая паэзія”: Анталогія ў двух тамах (разам з М. Абалай, 1984), “М. Богданович” “Узор василька” (1985), “Воляй азорыцца свет” (1985), “Ветразь” (1985, 1990, 1991), “Песня Даўгавы” (1986), “Наш Нёман” (разам з Л. Інісам, 1988), “Падарожная кніжка Скарыны” (разам з В. Дышыневіч, 1990), дзесяці выпускаў гістарычнай літаратуры “Бацькаўшчына” (1990–2002), Янка Купала. “Явар і каліна” (2000), “Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі” (2003), Віктар Вальтар. “Выбраныя творы” (разам з М. Казлоўскім, 2009), “Тысяча гадоў добраму суседству. Беларуска-літоўскае гістарычнае і літаратурнае сужыццё: анталогія” (2009), “Уладзімір Караткевіч: вя-

домы і невядомы” – укладанне твораў, прысвечаных У. Караткевічу, для раздзела “Свет мяне паўторыць” (2010).

**Для серыі “Школьная бібліятэка” укладзены:**

Максім Багдановіч. “Шыпшына” (1991), “У бязмежную даль: Кніга пра Максіма Багдановіча” (1996), “Слаўны сын Беларусі: Кніга пра Скарыну” (1994), “Жыві ў свабодзе!: Кніга пра Каліноўскага” (1996), Янка Купала. Якуб Колас. “Родныя вобразы” (разам з Я. Хвалеем, 1997), “Свой пачэсны пасад: Кніга пра Янку Купалу” (1999).

На **дыску “Дарчыя надпісы”** сабраны аўтографы пісьменнікаў розных пакаленняў, пакінутыя на кнігах, пачынаючы з 1960 года (Максім Лужанін, Янка Брыль, Янка Скрыган ды інш.).

На **дыску “Галасы”** (2009) запісаны вершы і песні Уладзіміра Караткевіча, вершы Ларысы Геніюш, Рыгора Барадуліна. Чакаюць выдання народныя песні, запісаныя ў 1968–69 гадах ад родных і землякоў у Мёрскім раёне Віцебскай вобласці.

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Панізьнік** Сяргей Сцяпанавіч

**Нас – многа!**

*Гадоў увершаваныя радкі*

Рэдактар
*Зьміцер Санько*

Мастацкае афармленне
*Віталь Катовіч*

Кампутарнае шыхтаванне
*Надзея Вішнеўская*

Тэхнічны рэдактар
*Алесь Дрыбін*

Карэктар
*Марыя Кавальчук*

